НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 36 (825) 25 верасня 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

П Е Р Ш … Б Е Л А Р У С К А … З Е Т А

Заснаваная ў лістапа… і 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «… …отыднёва, у серады


# Украіна ў Еўропу. А Беларусь?

Старонкі 2, 10.

## Апазіцыя: адрозненняў няма, адзінства таксама.

Старонка 3.

## «Скажыце сваім работнікам, каб не хварэлі!»

Старонка 5.

## Паліўны кароль Аляксандр Цэнцер.

Старонка 9.

REUTERS

Гістарычны момант

# Урад Украіны аднагалосна ўхваліў пагадненне аб асацыяцыі з ЕС

«Я не бачу прычын для зрыву падпісання пагаднення аб асацыяцыі з боку Еўрасаюза, асабліва пасля сёняшняга рашэння Украіны», — падкрэсліў 18 верасня прадстаўнік ЕС ва Украіне Ян Тамбінскі. Ён дадаў, што гэта — «вельмі важны і рашучы крок украінскага ўрада».

Прэм'ер-міністр Мікалай Азараў, у сваю чаргу, заявіў, што падпісанне пагаднення аб асацыяцыі з ЕС «паспрыяе паслядоўнаму руху Украіны да еўрапейскай якасці жыцця».

Прэм'ер падкрэсліў, што гэты дакумент з'яўляецца «дарожнай картай» на шляху да той краіны, якую хочуць бачыць большасць украінцаў.

Праект пагаднення займае аж 236 старонак і прадугледжвае, у тым ліку, стварэнне зоны свабоднага гандлю з ЕС.

Кіеў спадзяецца падпісаць пагадненне на саміце Усходняга партнёрства 28–29 лістапада ў Вільні.

Хоць прэзідэнтка Літвы заявіла на форуме ў Ялце, што падпісанне пагаднення будзе залежаць ад лёсу Юліі Цімашэнкі, зняволенай за падпісанне нявыгадных для Украіны газавых пагадненняў, назіральнікі сыходзяцца на тым, што гістарычны акт адбудзецца.

Яго па сваім значэнні можна параўнаць з Пераяслаўскай радай 1654 года, калі казакі адракліся незалежнасці на карысць пратэкцыі царскай Расіі.

Самыя значныя перамены заўжды адбываюцца незаўважна, у галовах, паволі.

Як адзначыў экс-прэзідэнт Украіны Юшчанка, незвычайнасць моманту ў тым, што ўпершыню за еўрапейскі выбар ва Украіне выступаюць дружна і ўлады, і апазіцыя. Раней то ўлады былі за, а апазіцыя — супраць, то наадварот. А цяпер палітычныя і бізнэс-эліты сышліся: Украіна павінна стаць роўнай паміж роўных у ЕС.

Гэта мяняе геапалітычную карту свету. Ад 1991 да 2013 года, нават пасля Аранжавай рэвалюцыі, краіна была ў «шэрай зоне» між Расіяй і Еўропай. Цяпер яна робіць канчатковы выбар.

Упершыню за многія стагоддзі Украіна і Беларусь апынаюцца па розныя бакі геапалітычнага разлому.

Пуцін пагражае Кіеву гандлёвымі войнамі і, мабыць, узмоцніць фінансаванне беларускага рэжыму, каб утрымаць яго пад кантролем.

Аднак калі Украіна далучыцца да ЕС, Беларусь будзе атачаная нацыянальнымі, прававымі еўрапейскімі дзяржавамі. І гэта будзе мець уплыў.

Мікола Бугай

Вельмі асабістымі ўражаннямі ад паездкі ў Львоў дзеліцца пісьменніца Наталка Бабіна — старонка 10.



# Le Monde illustré і паўстанне Каліноўскага

**Выстава пра паўстанне 1863 у Гістарычным музеі.**

«Смерць — адзіны пераможца, слава пераможаным». Гэта дэвіз выставы «З гісторыі падзей 1863-1864 гг.», прысвечанай 150-годдзю паўстання Кастуся Каліноўскага. Да 6 кастрычніка яе можна ўбачыць у Нацыянальным гістарычным музеі (Маркса, 12).

Выставу можна ўмоўна падзяліць на дзве тэматычныя часткі. Аснову першай склалі матэрыялы, якія раней презентаваліся ў Польшчы і былі паказаны ў Мінску дзякуючы дапамозе пасольства заходняй суседкі. Пабудова гэтай часткі выставы з'яўляецца класічнай. Напрыклад, карта Еўропы 1851 года, змешчаная на стэндзе, паказвае, што ніводны са славянскіх народаў (акрамя Расіі) не меў сваёй дзяржаўнасці. Усе яны знаходзіліся ў складзе Асманскай, Аўстрыйскай і Расійскай імперый.

Лісты з Сібіры паказваюць пакутны лёс герояў змагання. Асабліва кранальны фотаздымак 1916 года, на якім бачныя старыя ўдзельнікі паўстання з горада Радама...

Недахопам «польскай» часткі з'яўляецца адсутнасць беларускага перакладу да тлумачэнняў і подпісаў. Зразумела, не ўсе наведвальнікі валодаюць польскай мовай. Але нават тыя, хто паспрабуе разабраць тэкст, хутка сутыкаюцца з праблемай: тлумачэнні гісторыкаў і музеязнаўцаў, зразумела, напісаныя друкаванымі літарамі. А вось копіі асобных дакументаў, змешчаныя на стэндзе — ад рукі. Сціслага перакладу іх зместу вельмі не хапае. «Польскі» блок трэба вывучаць або з экскурсаводам, або з дасведчаным у гісторыі чалавекам.

Другі, «беларускі» раздзел экспазіцыі складаецца з матэрыялаў, падрыхтаваных Гістарычным музеем. Яго цэнтральная, найбольш цікавая частка — гравюры, прысвечаныя паўстанню. Яны былі надрукаваныя ў 1863-1864 гадах у французскім часопісе Le Monde illustré. Выданне з'явілася ў свет незадоўга да паўстання Каліноўскага, у 1857-м і (з перапынкам на Другую сусветную вайну) выходзіла на працягу стагоддзя.

Асновай дрэварытаў з «Монд ілюстрэ» складалі малюнкі, дасланыя ў Францыю. Напрыклад, пазначана, што гравюры створаны «паводле эскіза М.Багуслава», «паводле эскіза М.К.», «паводле дакументаў, атрыманых ад М.П.». Цікава, што адным з французскіх аўтараў з'яўляўся мастак Густаў Дарэ, які атрымаў сусветную вядомасць сваімі ілюстрацыямі да Біблії.

Сюжэт кожнай гравюры пазначаны ў назве: «Княжна Б. перадае штандар камандзіру добраахвотнікаў (Мінская губернія)», «Сяляне ўцякаюць ад корпуса царскіх войскаў», «Атрад Лапінскага ў засадзе, каб перахапіць калону высланых пад дарозе з Варшавы ў Маскву», «Асуджаныя да высылкі».

«Монд ілюстрэ» быў вядучым ілюстраваным штотыднёвым палітычным часопісам Францыі. Няма сумненняў, што асобнікі выдання траплялі як ва ўсе еўрапейскія сталіцы, так і ў каланіяльныя ўладанні Французскай імперыі, адной з самых вялікіх у свеце. Іх чыталі так, як сёння ў інтэрнэце чытаюць матэрыялы Бі-Бі-Сі пра падзеі ў Сірыі ці Кітаі.

Заходні след у падзеях 1863 года цікавіць нас і з іншай нагоды. Паўстанцы не былі наіўнымі людзьмі і разумелі, як няпроста перамагчы велізарную імперыю. Спадзяванні на вызваленне Радзімы яны ўскладалі не толькі на ўзброеную барацьбу, але і на дапамогу Англіі і Францыі. Але тыя абмежаваліся дыпламатычнымі нотамі і не пачалі баявых дзеянняў. Для замежнікаў публікацыя гравюр у «Монд ілюстрэ» стала інфармаваннем пра падзеі ў далёкай краіне (гэтак жа мы чытаем у інтэрнэце матэрыялы пра вайну ў Сірыі). Для паўстанцаў — праявай маральнай падтрымкі, якая тым не менш ніяк не паўплывала на іх лёс.

Андрусь Вяткоўскі

## Сцісла

**«Камерсант»: У Сочы было тры сустрэчы Пуціна і Лукашэнкі**

У Краснадарскім краі адбыўся саміт прэзідэнтаў краін АДКБ. Паводле інфармацыі выдання, бакі так і не дамовіліся ні аб чым у калійным канфлікце і зняволенні Баўмгертнера. Затое «Камерсант» адзначае, што ў Лукашэнкі дзіўным чынам пачарнелі вусы.

**Немаўля знайшлі ў смецці ў Нароўлі**

Цела дзяўчынкі пабачыла пенсіянерка. Яно было запакавана ў чорны мех. Ідзе следства.

**Самалёт «Белавія» трапіў у аварыйную сітуацыю**

Пасажыры «Боінга» не змаглі трапіць з Мінска ў Анталью. Самалёт узляцеў, але быў вымушаны праз 1,5 гадзіны вярнуцца на зямлю праз праблемы з шасі. Паколькі пасадка была рызыкоўнай, дарогу да аэрапорта перакрывалі.

**Квіткі на чэмпіянат па хакеі пачнуць прадаваць 30 верасня**

Спачатку будуць прадаваць абанементы, пасля камандныя і квіткі на цэлы дзень (ад 16 кастрычніка). 1 снежня паступяць у продаж квіткі на адзіночныя матчы. Старшыня федэрацыі хакея Яўген Ворсін сышоў ад адказу на пытанне, ці можна будзе праносіць на гульні бел-чырвона-белыя сцягі.

**Праезд у Мінску даражэе да 2500 рублёў**

Хутчэй за ўсё, новыя цэны ўвядуць ад 1 кастрычніка. Звычайна следам за сталіцай цану на праезд уздымаюць і ў іншых гарадах.

ЛМ

## Апытанне на nn.by

**Як па-вашаму, Беларусь павінна ўваходзіць у АДКБ ці ў NATO?**

| | | |
|---|---|---|
| У АДКБ | 137 | 9% |
| У NATO | 597 | 38% |
| Ні туды, ні сюды, трэба быць нейтральнымі | 832 | 53% |

Усяго прагаласавала 1566.

## Самае чытанае на nn.by за 18-24 верасня

1 Гісторыя жахлівага забойства і бясконцай любові
2 Супрацоўніцу «Белтэлекама», што не зразумела белмоўнага кліента, прыцягнулі да адказнасці
3 Сусед: «Абмяркоўваем з Андрэйчанкам палітыку. Але што ад нас зменіцца?»
4 Блогер d-zholik: У Службе бяспекі прэзідэнта працуе не менш за 680 чалавек
5 У Лідзе на Дзень горада жорстка збілі дзвюх магазіншчыц
6 На паказ калекцыі ад Sisters Parfenovich сабраўся ўвесь бамонд, у тым ліку Варламаў
7 У Галандыі з'явіліся чыпсы з Лукашэнкам — фотафакт
8 Што самае абсурднае ў Беларусі?
9 Эстонія: рускія — яны такія
10 Прадстаўніцтва Еўрасаюза злавіла беларускае тэлебачанне на падмане

# Дзве апазіцыйныя кааліцыі: адрозненняў амаль няма, адзінства зусім няма

У выхадныя ў Мінску была заснаваная новая апазіцыйная кааліцыя — «Талака». Яе ядро склалі АГП і посткамуністы са «Справядлівага свету». Іншая кааліцыя прадстаўленая БНФ, Рухам «За Свабоду» і «Гавары праўду», якія праводзяць кампанію «Народны рэферэндум».

Чаму «Талака»? «Прыгожае беларускае слова. Паказвае, што робім мы нешта разам, а не паасобку, — кажа Анатоль Лябедзька. — Нават не ўзгадаю, хто першым прапанаваў. Мне мой намеснік Леў Марголін паведаміў, што людзі выступаюць за такую назву на сустрэчах. Вырасла з нізоў».

Цяжка сказаць, на чым цяпер грунтуецца падзел у апазіцыі. Раней былі «праеўрапейскія» і «прарасійскія», «левыя» і «правыя». Цяпер такога светапогляднага разыходжання ў кааліцыях няма, але і адзінства няма.

Хрысціянская дэмакратыя не далучылася ні да адной з кааліцый. Чаму? Тлумачыць сустаршыня БХД Павел Севярынец: «Няма сэнсу ўдзельнічаць у сітуацыйных альянсах, якія падзяляюцца паміж сабой не ідэалагічна і тактычна. Мы разлічваем на яднанне. Няма прычын гэтым дзвюм кааліцыям не быць разам. Мы прапануем сябе як платформу для яднання, для выпрацоўкі агульнай стратэгіі».

У чым падабенства і ў чым розніца паміж кааліцыямі — у адказах старшыні АГП Анатоля Лябедзькі («Талака») і намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча («Народны рэферэндум»).



«Талака» стваралася ў гасцініцы «Мінск».

БЕЛАПАН



Анатоль Лябедзька.



Юрась Губарэвіч.

### У чым мэта кааліцыі?

**Анатоль Лябедзька:** Вярнуць людзям права выбару. На сёння гэтага права няма. А з гэтага права вынікаюць іншыя.

**Юрась Губарэвіч:** Вярнуць людзям магчымасць самастойна вырашаць будучыню краіны. У тым ліку шляхам рэферэндумаў.

### Хто ўдзельнічае?

**АЛ:** Пагадненне падпісане Аб'яднанай грамадзянскай партыяй, Беларускай партыяй левых «Справядлівы свет», чатырма аргкамітэтамі: па стварэнні Партыі працоўных, Беларускай жаночай партыі «Надзея», грамадскага праваабарончага аб'яднання «За справядлівыя выбары» і «Беларускага руху» — а таксама незарэгістраванай арганізацыяй «Маладая Беларусь». Сябрам кааліцыі «Талака» можа быць любы грамадзянін, якія падзяляе нашы каштоўнасці. Для гэтага яму не трэба пісаць заяву аб уваходжанні. Ніякай бюракратыі ў гэтым пытанні мы не маем.

**ЮГ:** Гэта Рух «За Свабоду», «Гавары праўду», Партыя БНФ, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, аргкамітэт па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу. Вядома, сярод нашых прыхільнікаў ёсць і прадстаўнікі іншых палітычных сілаў.

### Чым кааліцыі адрозніваюцца адна ад адной?

**АЛ:** Я не ведаю, няхай гэтым займаюцца аналітыкі і журналісты. Хачу сказаць, што былі розныя кааліцыі, але ніхто не ставіў сваёй прыярытэтнай задачай менавіта сумленныя і свабодныя выбары. У сённяшніх жа ўмовах, калі ты ставіш сабе нейкую іншую задачу, то ты ўжо не палітычная арганізацыя, а асветніцкая, праваабарончая, нейкая іншая. Вярнуць свабодныя выбары — гэта першасная задача на сёння.

**ЮГ:** Мы не шукаем адрозненняў. Мы прапаноўвалі далучыцца да «Народнага рэферэндуму» ўсім палітычным структурам. Праблемай свабодных выбараў апазіцыя займаецца столькі, колькі існуюць гэтыя несумленныя выбары. Гэта не новае пасланне. У гэтым пытанні ніякіх разыходжанняў з «Талакой» мы не маем. Разыходжанне ў метадах. На сёння мы лічым, што мэтаў трэба дасягаць праз актыўную працу з людзьмі, праз прыслухоўванне да іх штодзённых патрэбаў.

### Чаму не можаце аб'яднацца?

**АЛ:** На словах існуе паразуменне. Аднак на справах не заўсёды выходзіць гладка. Ёсць рознасць поглядаў у прыярытэтных задачах і інструментах іх выканання.

**ЮГ:** Абодва бакі дэкларуюць сваю гатоўнасць да супрацы... А замінае? Пэўна, амбіцыі некаторых лідараў.

### Ці слушна казаць, што ў «Народны рэферэндум» сабраліся палітыкі, што выступаюць за дыялог з уладай, а ў «Талаку» — менш лаяльныя да ўлады?

**АЛ:** У нас нават прапісана, што альянс «Талака» стаіць у жорсткай каштоўнаснай апазіцыі да сённяшняй улады. Мы не прымаем таго, каб некага з нас прызначылі на якуюсьці выбарчую пасаду. Мы не будзем дамаўляцца пра гэта з еўрапейцамі. Можна казаць, што ўнутры краіны мы займаем найбольш жорсткую пазіцыю з палітычных арганізацый.

**ЮГ:** Гэта навешванне ярлыкоў. Мы не хаваем сваёй ацэнкі сённяшняму стану рэчаў у краіне. І ацэнкі нашы вельмі жорсткія. Мы патрабуем зменаў у краіне. І лічым, што такіх зменаў можна дабіцца шляхам рэферэндуму.

### Ці будуць вашы кааліцыі ўдзельнічаць у мясцовых выбарах?

**АЛ:** Мы не будзем нікога ўражваць колькасцю кандыдатаў. Дакладней, нават не кандыдатаў, а спікераў. Ніхто не будзе змагацца за мандат, бо разумеюць, што ў сённяшніх умовах здабыць яго немагчыма. Спікеры будуць займацца ідэяй папулярызацыі свабодных выбараў.

**ЮГ:** Мясцовыя выбары — гэта магчымасць легальнай дзейнасці, якую трэба скарыстоўваць. Сустрэча з людзьмі, раздача матэрыялаў. Мяркуем, што нашы кандыдаты будуць прапагандаваць пасланні «Народнага рэферэндуму».

### Ці будзе кааліцыя вылучаць кандыдата на прэзідэнцкія выбары?

**АЛ:** На мясцовых выбарах мы паспрабуем зладзіць «праймерыз» на адной альбо некалькіх акругах. Паглядзець, ці можа гэты метад быць эфектыўным для вызначэння адзінага кандыдата. Метад «праймерыз» можа даць добрую канкурэнцыю за галасы людзей. Калі не ўсе палітычныя сілы далучацца да «праймерыз», то не бяда.

**ЮГ:** Мы лічым, што сітуацыя 2010 года, калі апазіцыя ішла на выбары шматлікімі калонамі, непрымальная. Ёсць дамоўленасць, што арганізацыі, якія цяпер працуюць для «Народнага рэферэндуму» будуць працаваць на аднаго кандыдата, а ў ідэале выхад на адзінага. Дарэчы, напрацоўкі «Народнага рэферэндуму» могуць легчы ў аснову праграмы адзінага кандыдата.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Аўтуховіч ускрыў сабе жывот

Паводле неафіцыйнай інфармацыі з турмы, палітвязень Мікалай Аўтуховіч пайшоў на крайнія меры, каб спыніць здзекі з боку турэмнай адміністрацыі. 4 верасня былы ваўкавыскі прадпрымальнік ускрыў сабе жывот. На такі крок адчаю арыштанты ідуць, калі не бачаць іншых шляхоў уплыву на сітуацыю.

Аўтуховіч цяпер знаходзіцца ў гродзенскай крытай турме. На яго ўвесь час вешаюцца новыя спагнанні і парушэнні, праз якія ідзе больш жорсткае абыходжанне. На гэты раз спагнанне было праз адсутнасць пасля адбою на спальным месцы. Гэта аўтаматычна адняло ў вязня магчымасць атрымання перадач і спаткання з роднымі.

На дадзены момант не вядома, у якім стане знаходзіцца Аўтуховіч. Ён былы афганец, заснаваў у Ваўкавыску фірму таксі, змагаўся з мясцовым начальствам. Першы раз быў асуджаны нібыта за нясплату падаткаў. У другі раз яго абвінавачвалі ў тэрарызме, аднак асудзілі за 5 знойдзеных патронаў, за што далі 5 гадоў турмы. На волю Аўтуховіч мусіць выйсці ў красавіку 2014 года.

**ЗП**

## Навіны палітвязняў

### Севярынец шукае жытло

У сустаршыні БХД Паўла Севярынца пайшоў апошні месяц зняволення. З куплінскай «хіміі» ён мусіць вызваліцца 19 кастрычніка.

Цяпер Павел шукае здымнае жыллё ў Мінску (аднапакаёўку).

### Аліневічу — 30

24 верасня круглую дату адзначыў анархіст Ігар Аліневіч. Ён асуджаны нібыта за напад на казіно «Шангры-Ла» і ізалятар на Акрэсціна. Павіншаваць хлопца можна па адрасе: 211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10.

### Пачобута вызвалілі

Гарадзенскі журналіст адбываў пакаранне з адтэрміноўкай нібыта за абразу Аляксандра Лукашэнкі. Суд Ленінскага раёна Гродна вызваліў Пачобута ад адбыцця пакарання, бо ён больш не парушаў заканадаўства. Цяпер Пачобут зможа ездзіць за мяжу і яго не будзе кантраляваць міліцыя. Прынамсі, у адкрытую.

**ЗП**

# Меркель: «мама» як палітычны тып

**Асцярожная і разважлівая канцлерка прывяла сваю партыю да пераканаўчай перамогі.**

Блок Ангелы Меркель «Хрысціянска-дэмакратычны саюз / Хрысціянска-сацыяльны саюз» (ХДС/ХСС) быў у адным кроку ад таго, каб атрымаць абсалютную большасць у бундэстагу. Аднак спойлеры з выбарчага спіса «Альтэрнатыва для Германіі» адцягнулі частку выбарцаў.

ХДС/ХСС набірае 41,5% галасоў выбаршчыкаў. У той жа час тры левыя і левацэнтрысцкія партыі, якія пераадолелі пяціпрацэнтны бар'ер, набіраюць прыкладна 42%. Немцы лічаць галасы з зайздроснай для беларусаў дакладнасцю і празрыстасцю.

Гэта значыць, што хрысціянскіх дэмакратаў чакаюць няпростыя кааліцыйныя перамовы.

Найзручнейшыя паплечнікі блока Меркель — Свабодная дэмакратычная партыя — губляюць месца ў бундэстагу. Яны недабралі да мінімальнага 5-працэнтнага бар'ера. Гэта гістарычная параза лібералаў: яны страцілі прысутнасць у парламенце першы раз за ўвесь пасляваенны час.

Разам свабодныя дэмакраты і Альтэрнатыва для Германіі набралі 9,5% галасоў, аднак гэта толькі разбіла правы электарат.

Абсалютную парламенцкую большасць раней у гісторыі Германіі ўдавалася атрымаць толькі Конраду Адэнаўэру на піку ягонай славы. Меркель наблізілася да ягонага паказчыка. Можа быць, яна дасягне яго на наступных выбарах?

Асцярожная і разважлівая, kanzlerin («канцлерка») увасабляе сабой «лідара для мірных часоў». Гатовая да кампрамісаў, не схільная да гучных заяваў, яна — жывая супрацьлегласць аўтарытарным лідарам постсавецкіх краін. Яна не самасцвярджаецца праз гульню ў хакей і супердарагія машыны. Немцы далі ёй мянушку «матуля», «мама».

Пры любым магчымым кааліцыйным раскладзе Гвіда Вэстэрвеле перастане быць міністрам замежных справаў Германіі. Не выключана, што змены ў кіраўніцтве Нямеччыны стануць нагодай для таго, каб адміністрацыя Лукашэнкі пайшла на змены ў двухбаковых адносінах і стасунках з ЕС.

**Мікола Бугай**




## Супрацоўніцу «Белтэлекама», якая не зразумела беларускамоўнага кліента, прыцягнулі да адказнасці

**Усіх спецыялістаў кампаніі абавязалі кансультаваць кліентаў на мове іх звароту.**

За адмову абслужыць беларускамоўнага кліента супрацоўніцу «Белтэлекама» прыцягнулі да дысцыплінарнай адказнасці.

Інцыдэнт здарыўся 12 жніўня. Карэспандэнт «Нашай Нівы» Ягор Марціновіч звярнуўся па прыватных пытаннях у кансультацыю па паслугах «Белтэлекама» (інфалінія 130). На ягоны званок адказала спецыялістка кол-цэнтра Вікторыя Кобрусева.

Зразумець, што такое «абсталяванне», супрацоўніца не змагла і... запатрабавала размаўляць з ёй на расійскай мове. Сваю пазіцыю яна патлумачыла тым, што расійская мова — дзяржаўная. Замест падначаленай, даваць кансультацыю давялося яе начальніцы — тая беларускай мовай валодала.

На наступны дзень Ягор Марціновіч звярнуўся ў «Белтэлекам» з пісьмовай прэтэнзіяй. У лісце на імя генеральнага дырэктара Сяргея Папкова ён папрасіў прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасці Вікторыю Кобрусеву, давесці да супрацоўнікаў правілы абслугоўвання на мове звароту кліента, а таксама выпрацаваць для спецыялістаў беларускамоўны слоўнік тэрмінаў.

Праз месяц ад «Белтэлекама» прыйшоў адказ за подпісам Дзмітрыя Дарошкі, галоўнага інжынера філіяла Мінскай гарадской тэлефоннай сеткі (туды прэтэнзія была перанакіраваная для разгляду).

Згодна з ім, супрацоўніцу інфалініі Вікторыю Кобрусеву вырашана прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасці на падставе закона «Аб мовах»: «кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў і іншых арганізацый павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў». Праўда, спагнанне абранае мінімальна магчымае — яна атрымала заўвагу.

Апроч таго, кіраўніцтва растлумачыла супрацоўнікам службы 130, што ім неабходна абслугоўваць кліентаў на мове іх звароту, а таксама «павышаць свой слоўнікавы запас нацыянальнай мовы».

А вось спецыяльны слоўнік вырашана пакуль не ствараць. «Белтэлекам» запэўнівае, што «адукацыя спецыялістаў дазваляе ім у поўным аб'ёме выкарыстоўваць нацыянальную мову».

**Віталь Несцераў**

## Блогер d-zholik: У Службе бяспекі прэзідэнта працуе не менш за 680 чалавек

**А супрацоўнікаў КДБ — не менш за 3000 чалавек.**

Блогер d-zholik надрукаваў лічбы колькасці супрацоўнікаў розных сілавых структур Беларусі — членаў спартовага таварыства «Дынама». Блогер лічыць: «У нас у краіне ўсё робіцца добраахвотна-прымусова, таму ў БФСТ уступілі практычна 100% кадравага складу сілавых ведамстваў».

Лічбы не свежыя, з 2005 года. За 8 год сілавыя ведамствы маглі павялічыцца ў колькасці.

Паводле членства ў БФСТ «Дынама», у КДБ працуе не меней за 3 тысячы чалавек. Узгадваецца, што аднойчы Лукашэнка сказаў пра 12 тысяч «чэкістаў».

Магчыма, ён меў на ўвазе камітэтчыкаў і памежнікаў разам (пагранцы ў савецкі час уваходзілі ў структуру КДБ), плюс іншыя спецслужбы. Памежнікаў 6 тысяч.

Уражвае колькасць супрацоўнікаў Службы бяспекі прэзідэнта — у 2005 годзе ў «Дынама» іх было 680 чалавек. Не нашмат меней, чым у КДБ. D-zholik робіць выснову, што за гэты час колькасць магла ўзрасці: праз палітычныя працэсы, тэракты, а таксама з'яўленне малодшага сына ў Лукашэнкі.

У МУС налічваецца 44 тысячы чалавек. Анансаванае скарачэнне ў сілавікоў, мабыць, якраз найперш і датычыць міліцыянераў. Пра звольненых кадэбістаў пакуль нічога не чуваць.

З фінансавай міліцыі ў шэрагах БФСТ «Дынама» налічваецца 700 чалавек, з Мытнага камітэта — 4 тысячы, з МНС — 13 тысяч.

Варта адзначыць, што сярод прыведзеных лічбаў няма колькасці супрацоўнікаў Генпракуратуры, а таксама новаўтвораных ведамстваў — Следчага камітэта, ААЦ і Камітэта судовых экспертыз.

**ЗП**

**Фотафакт**




**23 і 24 верасня ў мінскім метро ладзілі антытэрарыстычныя вучэнні. На ўваходзе абшуквалі сумкі пасажыраў, станцыя «Плошча Якуба Коласа» на некалькі гадзін была зачыненая. Практыкаванні ў метро супалі з пачаткам другога этапа вучэнняў «Захад-2013», на якіх адпрацоўваецца супрацьдзеянне ўмяшанню з-за мяжы як выніку паўстання ўнутры краіны.**

## У Нідэрландах з'явіліся чыпсы з выявай Лукашэнкі

Дызайнер Вірджынія Моўрынхаўт стварыла лінейку партрэтаў дыктатараў, якія выкарысталі для аздаблення пачакаў чыпсаў. Слоган чыпсаў: «Паспрабуйце нас аднойчы, і ніколі больш нічога не захочаце». У лінейку такіх чыпсаў уваходзіць 19 смакаў — ёсць і Муамар Кадафі, і Піначэт, і Іосіф Сталін.




«Дыктарскія чыпсы — гэта арт-праект, наша задача — прымусіць людзей задумацца пра саміх сябе і тое грамадства, у якім мы існуем, — кажа спадарыня Моўрынхаўт. — Я ніколі не лічыла гэты праект «мастацкім», але адчула, што варта выставіць яго. Тым больш тут, у Нідэрландах, нішто не перашкаджае мне працаваць над ім. Цяпер я працую над партрэтам Кім Чэн Ына».

**Юрась Ускоў**

Новым палажэннем выплаты **па бальнічных зрэзалі** на 30—40%.

# «Скажыце сваім работнікам, каб не хварэлі!»

11 ліпеня было ўведзена ў дзеянне новае Палажэнне аб парадку забеспячэння дапамогамі па часовай непрацаздольнасці і па цяжарнасці і родах, зацверджанае пастановай Савета Міністраў № 569 ад 28 чэрвеня 2013 г. Тут жа шматлікія выданні паспяшылі зрабіць выснову: «цяпер, змагаючыся з хваробай на выходных, таксама можна атрымаць пэўную суму». Але ці ўсё так добра, як падаецца?

## Новы разлік

З 11 ліпеня за першыя 12 дзён дапамога разлічваецца ў памеры 80% ад сярэдняга заробку (раней было — 6 дзён у памеры 80%, а наступныя — 100%). Дапамога па доглядзе за хворым членам сям'і, як і раней, разлічваецца ў памеры 100%. Але сам разлік сярэдняга заробку істотна змяніўся.

Раней сярэдні заробак за дзень разлічваўся за апошнія 2 месяцы дзяленнем даходу за гэты перыяд на фактычна адпрацаваную колькасць дзён. Пры гэтым ужываліся павышаючыя каэфіцыенты, калі аклад (тарыф) у дадзены перыяд павышаўся. Цяпер жа сярэдні заробак разлічваецца зыходзячы з заробку за шэсць (!) месяцаў без усялякіх каэфіцыентаў.

Напрыклад, калі вы хварэлі ў ліпені, для разліку возьмецца заробак са студзеня па чэрвень. Які ў вас заробак быў у студзені, памятаеце? За гэты перыяд на нашым прадпрыемстве, напрыклад, заробак павышалі некалькі разоў.

У краіне, дзе толькі афіцыйная інфляцыя дасягае 21% (за апошні год), а па неафіцыйных звестках — болей за 23% у гэтым годзе, улічваць заробак за паўгода — гэта проста рабаванне.

Пры гэтым прэміі і іншыя выплаты ўключаюцца ў заробак прапарцыянальна адпрацаваным дням у перыядзе. На практыцы гэта азначае, што, калі работнік адпрацаваў не поўны месяц (па прычыне непрацаздольнасці, знаходзіўся ў водпуску і інш.) яго прэмія (ужо і так разлічаная за няпоўны месяц) яшчэ раз разлічваецца прапарцыянальна адпрацаванаму часу.

Так, напрыклад, работнік знаходзіўся ў водпуску 15 дзён, атрымаў акрамя аклада прэмію ў 400 тыс. руб. Пры разліку сярэдняга заробку для «бальнічнага» бухгалтар возьме аклад ды надбаўкі да яго ў поўным памеры, а прэмію — у памеры 200 тыс. руб. (бо адпрацавана толькі палова месяца). Быў у водпуску і адпрацаваў 1/3 нормы дзён — у разлік возьмуць 1/3 прэміі і г.д. Ці адпавядае гэта якойнебудзь логіцы, калі толькі не жадаеш штучна зменшыць сярэдні заробак?

Аднак сапраўды, дапамога па часовай непрацаздольнасці цяпер разлічваецца за кожны дзень хваробы (каляндарныя дні), а не за дні па графіку працы работніка, як раней. Толькі вось і сярэдні заробак па новым разліку атрымліваецца значна меншы, бо разлічваецца цяпер дзяленнем на каляндарныя дні, а не на адпрацаваныя. Такім чынам, калі, напрыклад, жанчына за 14 дзён непрацаздольнасці па доглядзе дзіцяці да 14 гадоў раней атрымала б каля 2 млн руб. дапамогі пры заробку (разам з прэміяй) каля 4 мільёнаў рублёў, то сёння яна атрымае менш за 1,4 млн руб.

## Ільготнікаў стала менш

Новым дакументам былі адменены некаторыя «льготныя» катэгорыі работнікаў. Так, раней круглыя сіраты да 21 год, бацькі, якія маюць трох і болей дзяцей, а таксама асобы, у якіх выпадак непрацаздольнасці наступіў падчас выканання службовых абавязкаў ці ратавання чужога жыцця, мелі права на дапамогу ў памеры 100% сярэдняга заробку. З 11 ліпеня гэтыя нормы былі адменены, і дадзеныя катэгорыі грамадзян падпадаюць пад агульны парадак — 80% за першыя 12 дзён.

Чулі пра двух мужчынаў, якія выратавалі дзяўчынку пяці гадоў і яе маці на рацэ Сож? Дык вось нават ім дапамога будзе выплочвацца ў памеры 80%. Мо «не трэба было лезці»?

Магчыма, прынялі б і іншыя катэгорыі работнікаў са «стоадсоткавай» дапамогай («чаэснікі», ветэраны баявых дзеянняў), але для гэтага трэба было змяніць яшчэ і законы («Аб ветэранах», «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, іншых радыяцыйных аварый»). Палажэннем — падзаконным актам — іх не адменіш, таму пакінулі так.

## Маладым спецыялістам — нічога

Што датычыць работнікаў, якія не маюць працоўнага стажу ці стаж якіх меншы за 6 месяцаў (напрыклад, маладыя спецыялісты), то іх дапамога разлічваецца не з заробку, а з 50% найбольшай велічыні бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва (у так званым «мінімальным памеры»), падзеленую на колькасць дзён у месяцы ды памножаную на колькасць дзён непацвярздольнасці. Так, за 3 дні такія катэгорыі работнікаў (незалежна ад заробку) у верасні атрымалі па 51 315 рублёў. Гэта грошы, якіх хопіць хіба што на бінты...

Часцяком і работнікам, якія маюць больш за 6 месяцаў стаж, але апошнія паўгода мянялі месца працы, прыйдзецца папабегаць, каб атрымаць даведку з Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва аб пацвярджэнні ўплаты за іх страхавых узносаў. Працэдура гэта, вядома ж, марудная.

Што датычыць цяжарных жанчын, то новы парадак разліку дапамогі па цяжарнасці і родах прымяняецца ўжо са студзеня гэтага года ў сувязі з уступленнем у дзеянне закона «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей». І калі ўлічваць тое, што іх дапамога назначаецца не на адзін тыдзень і не на два, а на 126 дзён (ці на 140 — у «зоне»), то іх дапамогу ўрэзалі адчувальна: так, пры акладзе 4,5 млн руб. нашая работніца атрымала летам дапамогу на 9 мільёнаў меншую, чым калі б ёй разлічвалі па-ранейшаму. Падтрымкай мацярынства ды дзяцінства такую палітыку не назавеш.

## «Касякі»

Як бы доўга дадзенае Палажэнне ні распрацоўвалася (гаворка пра яго прыняцце ішла яшчэ ў канцы мінулага года), а ўсё ж атрымалася сырое. Распрацоўшчыкі не прынялі ў разлік шматлікія спрэчныя моманты, сустракаюцца натуральныя «касякі».

Калі работнік працуе вахтавым метадам, напрыклад, за паўмесяца (14 дзён) выпрацоўвае месячную норму выпрацоўкі, за што і атрымлівае поўны заробак, астатнія дні ў яго выхадныя. Раней, калі ён захварэе ў дні адпачынку, яны яму не аплочваліся (бо няма працоўных дзён па графіку). Аднак цяпер атрымліваецца, што такі работнік за бальнічны атрымае амаль ў два разы больш заробак, чым звычайна. Ото ж пачнуць хварэць вахтавікі!

Дарэчы, практыка паказвае, што хварэць на выхадных больш выгадна, чым па буднях, бо выхадныя цяпер аплочваюцца, а раней — не. І ўжо зусім нявыгадна — з панядзелка па пятніцу (пры пяцідзённым працоўным тыдні). А калі захварэць у пятніцу, а ўжо ў панядзелак закрыць «бальнічны», то можна амаль нічога не згубіць, у параўнанні з ранейшым разлікам.

## Нашто гэта было зроблена

Увогуле, атрымалася так, што памер дапамогі ў сярэднім знізіўся на 30-40%, а то і больш. Не дзякуючы якой рэформе ці аптымізацыі расходаў, а проста ўвядзеннем падзаконнага нарматыўнага акта дзяржава змагла скараціць свае выдаткі па сацыяльным страхаванні. Зроблена гэта было хітра! Не кожны работнік, дый не кожны эканаміст разбярэцца, як разлічваць дапамогу па непрацаздольнасці, і ніхто не пойдзе ў бухгалтэрыю запытвацца, а як жа гэта палічана ды ці правільна.

І ў каго пытаць, чаму ў сацыяльна арыентаванай дзяржаве сацыяльная дапамога раптам настолькі знізілася? Усё зроблена без шуму і пылу, нават ніводнага закона не мянялі. Распрацоўшчыкі Палажэння ківаюць на Расію, у якой пры разліку дапамогі бярэцца заробак не за 6 месяцаў, а за 24. Але ж, пагадзіцеся, пры гадавой інфляцыі 6-7% гэта можна сабе дазволіць. Дый заробкі там большыя.

Канечне, як прызнаюцца прадстаўнікі Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва, дзяржаве грошай не хапае нават каб плаціць пенсіі, бо гэта ўсё ідзе з аднаго «катла». У сувязі з гэтым чыноўнікі раяць толькі адно: «Скажыце сваім работнікам, каб не хварэлі!»

**Анэля Мнішкава**

## Сцісла

### Стаўкі па крэдытах падскочылі на 10%

На сёння крэдыт на будаўніцтва і набыццё жылля ў «Беларусбанку» можна атрымаць пад касмічныя 38,5% (стаўка рэфінансавання плюс 15%, раней — плюс 5%). Тэрмін карыстання крэдытам складае 15 гадоў. Пры гэтым памер выдадзенай сумы можа складаць да 75% кошту будаўніцтва (рэканструкцыі), набыцця жылога памяшкання. Затое не так даўно былі зменены ўмовы аб паруцы. Зараз пры разліку сумы крэдыту магчыма ўключэнне ў сукупны даход крэдытаатрымальніка даходаў паручальнікаў — блізкіх сваякоў крэдытаатрымальніка: мужа ці жонкі, бацькоў, родных братоў (сясцёр) мужа і жонкі, дзяцей, унукаў.

### Лукашэнка загадаў часткова забудоўваць зоны адпачынку

17 верасня былі ўнесеныя змены ў Генплан сталіцы. Шэраг зон адпачынку мяняюць межы. З іх выдзяляюцца ўчасткі пад шматфункцыянальную забудову. Гэта некалькі ўчасткаў на праспекце Пераможцаў, раён вуліц Ульянаўскай — Леніна — Кастрычніцкай. Шматкватэрныя дамы запланавана пабудаваць у рэкрэацыйных зонах у межах вуліц Каржанеўскага — Казінца — Брэсцкай і Маякоўскага — Аранжарэйнай — Лугавой. У рамках вуліц Даўгінаўскі тракт — Кальцавая аўтадарога вакол Мінска плануецца аддаць пад жылую сядзібную забудову.

Пад забудову аддаецца нават кавалак зоны адпачынку ў раёне афіцыйнай рэзідэнцыі Аляксандра Лукашэнкі «Дразды». Там зямельны ўчастак плошчай 5,2 га аддаюць пад «зону змяшанай прасторавай забудовы».

### «Роснефть» можа стаць манапольным пастаўшчыкам нафты ў Беларусь

Такі варыянт лабіруюць некаторыя расійскія чыноўнікі. «Роснефть» — гэта дзяржаўная кампанія. Яе ўзначальвае сябар Пуціна па КДБ і Пецярбургу Сечын.

### Кошт квадратнага метра вырас на 16%

Сярэдняя цана 1 кв.м у сталічных новабудоўлях у пачатку верасня 2013 года склала $1640. Гэта на 16,5% больш, чым на пачатак года.

### Мінфін настойвае на павелічэнні ПДВ

У наступным годзе стаўку падатку на дададзеную вартасць плануецца павялічыць з 20% да 22%. Гэта прадугледжана праектам закона аб унясенні змяненняў у Падатковы кодэкс, які абнародавала Міністэрства фінансаў. Прадстаўнікі бізнэс-асацыяцый не падтрымліваюць прапанову. Стаўка ПДВ у Беларусі (20%) цяпер і так вышэйшая, чым у іншых краінах Адзінай эканамічнай прасторы — Казахстане (12%) і Расіі (18%).

### Беларускі будаўнічы магнат патрабуе ад «Газпрама» $20 млн

«Газпрам» вырашыў пабудаваць у Мінску хмарачос і перайшоў дарогу мясцовым забудоўшчыкам. Дэвелаперская кампанія бізнэсмэна Ігара Александровіча ТДА «Аляксандраў-Строй» 20 верасня падала дасудовую прэтэнзію ў Гаспадарчы суд да «Газпрама» і Мінскага гарвыканкама. Фірма патрабуе кампенсацыі стратаў у сувязі з адкліканнем права на арэнду пляца, частку якога аблюбаваў «Газпрам» для будаўніцтва свайго офіса. Агульная сума прэтэнзій складае 184 млрд рублёў.

**СГ; Еўрарадыё**

# Хваля арыштаў у будаўнічай сферы

### У турму за 40 мільёнаў

Кар'ера генеральнага дырэктара ААТ «Крычаўцэментнашыфер» Леаніда Скоцкага, якога прызначылі на гэтую пасаду толькі паўтара года таму, складалася даволі ўдала. Ураджэнец Крычава, выпускнік Кустанайскага ПТВ №51 адпрацаваў шэсць гадоў намеснікам старшыні Крычаўскага райвыканкама. Пасля яго перавялі на прадпрыемства «Крычаўцэментнашыфер» — галоўнае ў горадзе.

Месяц таму прадпрыемства наведаў Аляксандр Лукашэнка, які станоўча ацаніў перспектывы завода, а зусім нядаўна «Крычаўцэментнашыфер» атрымаў узнагароду ад «Беларусбанка» як найлепшы партнёр.

17 верасня Леаніда Скоцкага затрымалі супрацоўнікі галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС і УКДБ па Магілёўскай вобласці. Паводле інфармацыі МУС, генеральны дырэктар «Крычаўцэментнашыфера» спрабаваў завалодаць грашыма ў суме 40 мільёнаў рублёў, выдаДзенымі работнікам прадпрыемства ў якасці прэміі.

Ён падпісаў загад аб прэміраванні работнікаў «За эканомію паліўна-энергетычных рэсурсаў па выніках працы за першае паўгоддзе 2013», а потым даў незаконныя ўказанні падначаленым сабраць з прэміяваных асоб пэўную суму.

«Выкарыстоўваючы адзначаную схему, генеральны дырэктар атрымаў 40 млн беларускіх рублёў. У гэты момант ён і быў затрыманы», — тлумачаць ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС.

У дачыненні да Леаніда Скоцкага заведзена крымінальная справа па ч.3 арт.210 КК Беларусі (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі ў буйным памеры). Ён арыштаваны і змешчаны ў следчы ізалятар Магілёва.

Паводле звестак рэдактара крычаўскай газеты «Вольны горад» Сяргея Няроўнага, заробак Скоцкага складаў з усімі надбаўкамі каля 45 млн рублёў. Калі гэта так, атрымліваецца, што гендырэктар «Крычаўцэментнашыфера» — буйнога прадпрыемства з абаротамі ў мільёны даляраў — можа трапіць у турму за спробу прысабечыць суму, меншую за яго месячны заробак.



Леанід Скоцкі быў затрыманы праз месяц пасля наведвання завода Лукашэнкам.



33-гадовы Сяргей Чыркоўскі ўзначальваў ЖКГ Міншчыны. Следства падазрае, што ён круціў афёры праз ТАА, заснавальнікам якога з'яўляецца ягоны брат.

### Крадзяжы ў «святая святых»

Карупцыйны скандал з удзелам адразу некалькіх кіраўнікоў і супрацоўнікаў ААТ «Мінскпрамбуд» і КУП «УКБ Мінгарвыканкам» разгарэўся вакол «Чыжоўка-Арэны». У галоўным упраўленні па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі (ГУБЭЗ) МУС паведамляюць, што амаль на працягу года група службовых асоб прысабечыла будаўнічыя матэрыялы ААТ «Мінскпрамбуд» амаль на 30 млн рублёў. Арматура, цэгла, пясок, цэмент, мяккія дахавыя матэрыялы, тынкоўка, піламатэрыялы прызначаліся для «Чыжоўка-Арэны», а трапілі ў вёску Загор'е Смалявіцкага раёна, пасёлак Азярцо і вёску Тарасава Мінскага раёна, дзе выкарыстоўваліся пры будаўніцтве прыватных жылых дамоў падазраваных кіраўнікоў.

У дачыненні да чацвярых падазраваных распачата справа на падставе ч.3 арт.210 КК (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, учынены ў буйным памеры). Яны затрыманыя. Вя-дзецца следства і аператыўнікі ГУБЭЗ устанаўліваюць кола асоб, якія саўдзельнічалі ў злоўжываннях, а таксама канчатковую суму нанесенага ўрону.

Гэты выпадак цікавы хаця б тым, што крадзяжы ажыццяўляліся ў «святая святых» — на будаўніцтве хакейнага комлекса, пры гэтым злачынствы, як мяркуецца, здзейсілі кіраўнікі Мінскпрамбуда і Мінгарвыканкама. Што датычыцца апошняй структуры, Лукашэнка неадназова казаў, што «Мінгарвыканкам ледзь не цалкам сфарміраваны з карупцыянераў», заяўляў пра жаданне закрыць гэтую ўстанову і пра неабходнасць «патрэсці Мінск».

Сума шкоды таксама здзіўляе: вынікае, што на будаўніцтве буйнога аб'екта, на які выдзелена каля 150 млн даляраў, чыноўнікі за год скралі каля 3,5 тысяч даляраў на чатырох. Зрэшты, не выключана, што следства выявіць большыя маштабы крадзяжоў.

### Падпольны мільянер ЖКГ

Справа ў дачыненні генеральнага дырэктара дзяржаўнага аб'яднання «Жыллёва-камунальная гаспадарка Мінскай вобласці» вылучаецца на агульным фоне. Паводле звестак МУС, сума ўрону дзяржаве тут даволі салідная — каля 700 млн рублёў, — а выкарыстоўваў чыноўнік класічную карупцыйную схему.

Адначасова з працай на пасадзе Сяргей Чыркоўскі фактычна кіраваў ТАА, заснавальнікам якога з'яўляецца яго родны брат. Гэтае прадпрыемства спецыялізуецца на замене цеплавых сетак і будаўніцтве кацельняў — менавіта «капітальны рамонт цеплаізаляцыі сетак цеплазабеспячэння» ў вёсцы Атраднае Любанскага раёна гендырэктар ЖКГ Міншчыны і даручыў выканаць з чэрвеня па кастрычнік 2012 года аднаму са сваіх падначаленых. Пры гэтым ён завысіў кошты фактычна выкананых работ, а грошы здымаў наяўнымі праз кантору, афорлменую індывідуальным прадпрымальнікам.

19 верасня чыноўніка затрымалі. Распачата крымінальная справа па ч.3 арт.424 КК (злоўжыванне ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі).

### Мёртвыя душы

Карупцыйныя скандалы не абмінулі і Маладзечна. Дырэктар ПСУП «Маладзечанская ПМК-2», якое працуе ў будаўнічай сферы, прычыніў прадпрыемству шкоду у суме больш за 22 млн рублёў.

Як паведамілі ў пракуратуры Мінскай вобласці, ён падазраецца ў тым, што ў жніўні-кастрычніку 2011 даручыў падначаленаму інжынеру аформіць шэраг фіктыўных дамоваў з чатырма грамадзянамі на выкананне работ на розных аб'ектах — пры гэтым дырэктар дакладна ведаў, што ніякіх работ яны выконваць не будуць, а грошы пералічваліся на рахунак ілжэпрадпрымальніцкай структуры. Такім чынам ён разлічваў прыхаваць і той факт, што раней гэтыя людзі працавалі на прадпрыемстве без якога-небудзь афармлення. На дырэктара Маладзечанскай ПМК-2 заведзена крымінальная справа.

Антыкарупцыйныя «зачысткі» закранулі розныя сферы эканомікі. Аб'ядноўвае гэтыя з большага «гучныя, але дробныя» справы хіба што невялікія маштабы крадзяжоў і злоўжыванняў. Выглядае на тое, што чынавенству дэманструюць актыўную дзейнасць праваахоўнікаў. Пры гэтым барацьба закранае ў асноўным дырэктараў прадпрыемстваў і чыноўнікаў сярэдняга звяна.

**Ганна Бадзяка**

---

Фотафакт



Сяргей Гудзілін

### Рукі яшчэ не забылі

21 і 22 верасня ў Слуцку прайшло абласное свята рамёстваў «Слуцкія паясы». На імправізаваных падворках кожнага з рэгіёнаў дэманстравалася прадукцыя нацыянальнага беларускага рамесніцтва — ручнікі, дываны, ткацкі рыштунак, лялькі.

---

Цытата



### Трэнер мінскага «Дынама»: Беларусы жывуць з апушчанымі вачыма

Галандскі спецыяліст Роберт Маскант у інтэрв'ю Goals.by адказаў на пытанне, у чым розніца паміж Беларуссю і Галандыяй: «Адрозненне [Галандыі] ад Беларусі заключаецца ў стаўленні да адказнасці. З ранняга ўзросту галандскіх дзяцей прывучаюць да адказнасці. Яны павінны вырасці здольнымі браць рашэнне праблем на сябе.

Беларусы ж, як мне здаецца, жывуць з апушчанымі вачыма. Ёсць нейкі страх. Узнікае адчуванне, быццам людзі хаваюць погляд і пастаянна праганяюць праз галаву думку: «Толькі б не я, толькі б не я. Не чапайце мяне. Я знайду, чым сябе заняць». Гэта тычыцца і футбола».

# «Алена ў суботу адсвяткавала 45-годдзе, а ў нядзелю загінула»

Падрабязнасці **нялюдскага забойства** дзвюх магазіншчыц у Лідзе.

Паведамленне пра жорсткае забойства скаланула Ліду. Увечары 15 верасня, пад завесу Дня горада, які з размахам святкаваўся ў Лідзе, невядомы пранік на задні двор прыватнай крамы «Казары». Звычайна брамка, якая вядзе туды, замкнёная, аднак у той фатальны дзень яна была адчыненая. У краме былі дзве магазіншчыцы — 55-гадовая Марына і Алена, якая 14 верасня адзначыла 45-годдзе. Пасля 21-й гадзіны яны скончылі працоўны дзень і, замкнуўшы парадны ўваход, выходзілі з магазіна праз заднія дзверы. Ва ўнутраным дворыку іх чакаў злачынца. (Міліцыя не выключае, што іх магло быць і некалькі.)

Жанчын забілі па-зверску. Прычым білі выключна па галаве ці то металічнай трубой, ці то бейсбольнай бітай. Ад атрыманых траўмаў яны загінулі амаль адразу. І ў Марыны, і ў Алены засталіся сем'і.

Магазін стаіць у сярэдзіне вуліцы Акрэсціна — гэта прыватны сектар. Аднак суседзі кажуць, што не чулі крыкаў: «Як пачуеш ці пабачыш — ва ўсіх пластыкавыя вокны, а магазін аддзелены глухой сцяной».

Злачынцы вынеслі з крамы алкаголь (гарэлку «Бульбаш» і «Сваяк») і 35 мільёнаў рублёў. Людзі ў Лідзе кажуць, спасылаючыся на

**Злачынцы вынеслі з крамы гарэлку «Бульбаш» і грошы**



знаёмых міліцыянтаў, што запэцканыя ў кроў грошы ўжо недзе «засвяціліся».

Міліцыя распаўсюдзіла фотаробат меркаванага забойцы прадавачак у Лідзе. Гэта мужчына 25–30 гадоў, рост 175–180 см, сярэдняга целаскладу, бліжэй да хударлявага. Быў апрануты ў куртку цёмную з капюшонам, сінія джынсы. Ён выходзіў з крамы ў прамежак часу, калі было здзейснена злачынства.

Таксама лідскі РАУС вывесіў у горадзе арыенціроўкі на пошук грамадзян К. і Г., якія таксама падазраюцца ў здзяйсненні гэтага дзікага злачынства. Адзін з іх нават нагадвае выяву фотаробата, аднак з тэксту можна меркаваць, што следчыя кіраваліся найперш крымінальным мінулым тых асобаў.

Суседзі ж кажуць, што следчыя дзеянні — апытанне жыхароў вуліцы Акрэсціна — ішлі яшчэ ў суботу, 21 верасня. «Значыць, пакуль нікога не злавілі», — падсумоўвае суразмоўца НН.

**Сяргей Мікулевіч**



Тая самая крама.



**Вышук**



### У Мінску з'явілася група кватэрнікаў-альпіністаў

5 верасня ў 19-павярховай новабудоўлі па вуліцы Цімашэнкі былі здзейсненыя два аднатыпныя кватэрныя крадзяжы. У здзяйсненні злачынстваў падазраюцца маладыя людзі, якія трапілі ў камеры відэаназірання ля ўвахода ў пад'езд.

Спачатку ў дом прыйшоў чалавек з тэчкай. Як мяркуюць аператыўнікі, ён праводзіў «разведку», падчас якой высвятлялася прысутнасць дома гаспадароў кватэр на верхніх паверхах. Праз паўгадзіны ў пад'езд увайшоў змоўшчык «разведчыка». А праз сорак хвілін абодва выйшлі ўжо са скрадзенай маёмасцю.

У доме былі абрабаваная дзве кватэры — на 15-м і 13-м паверхах. Выкрадзеныя грошы, ювелірныя вырабы, фотатэхніка. Агульная шкода — больш за 45 млн рублёў.

Мяркуючы па ўсім, зламыснікі пранікалі ў кватэры пацярпелых, выкарыстоўваючы спецыяльны рыштунак для будаўнічых работ на вышыні.

У сувязі з гэтым супрацоўнікі міліцыі просяць усіх, хто пазнаў мужчыну на фота, паведаміць у дзяжурную частку Фрунзенскага РУУС. Кантактныя тэлефоны: (029) 776-64-10, (017) 213-08-29, (017) 252-02-02. Канфідэнцыйнасць гарантаваная.

# Згарэў дом Змітра Вайцюшкевіча

Будынак **не быў застрахаваны**.

Уначы 19 верасня ў Астрашыцкім гарадку згрэў дом вядомага спевака Змітра Вайцюшкевіча, сам ён знаходзіўся ў гэты час па суседстве.

«Гэта домік маёй жонкі. Дзякуй Богу, падчас пажару там нікога не было, — кажа спадар Вайцюшкевіч. — У доме была кепская праводка, з-за яе і адбыўся пажар. Мы прачнуліся ўначы, пачуўшы, як «страляе» шыфер. Дом ужо моцна гарэў — стала зразумела, што сваімі сіламі мы яго не патушым».

Па словах музыкі, у доме знаходзіліся садовыя інструменты, газонакасілкі, будаўнічыя прыстасаванні, асабістыя рэчы ягонага сябра, які апошнім часам жыў разам з жонкай у спевака.

«Згарэлі ў тым ліку бакалаўрскія дыпломы, дзіцячыя джыпы», — кажа спадар Вайцюшкевіч. Дом не быў застрахаваны, бо ніхто ніколі не думаў, што ён можа згарэць.

«Цяпер мы збіраем валанцёраў, каб яны дапамаглі разгрэбсці завалы, — кажа Вайцюшкеівіч. — У чацвер па абедзе мы запрашаем усіх неабыякавых. Пры сабе трэба мець адпаведную вопратку ды абутак».

Аднаўляць дом Зміцер Вайцюшкевіч пакуль не збіраецца. «Я думаю, што пакуль паставім на месцы дома альтанку», — кажа спявак.

**Юрась Ускоў**



## Сцісла

### У Мінску зарэзалі падлетка

23 верасня ў Мінску забілі 13-гадовага падлетка, вучня сярэдняй школы №16. Труп непаўналетняга з колата-рэзаным раненнем у вобласці грудзей быў знойдзены ў Фрунзенскім раёне. Па гарачых слядах былі затрыманы падазраваны ў здзяйсненні злачынства — малады чалавек 1994 года нараджэння. Матывы высвятляюцца, распачата крымінальная справа.

### Жанчына, якую вінавацяць у здзяйсненні выбуху каля Віцебскага КДБ, прызналася

42-гадовая жыхарка Віцебска, якую вінавацяць у здзяйсненні выбуху каля КДБ у лістападзе 2012, прызнала віну ў судзе. Паводле яе словаў, яна хацела пасеяць паніку сярод супрацоўнікаў КДБ, бо лічыла, што яны грэбуюць пошукам хуліганаў, якія некалі зрабілі выбух у пад'ездзе яе дома. Таксама абвінавачаная прызналася ў здзяйсненні двух іншых выбухаў.

### У Свіслачы патануў кітайскі студэнт

Цела студэнта падрыхтоўчых курсаў БДУ з Кітая 1994 года нараджэння дасталі са Свіслачы 18 верасня. Ён жыў у інтэрнаце № 5 на вуліцы Кастрычніцкай. Як высветлілася, увечары 17 верасня кампанія з двух хлопцаў і адной дзяўчыны адпачывала на парапеце ля Свіслачы. Аднаму з іх стала дрэнна, і ён зваліўся ў ваду. Глыбіня ракі ў тым месцы — два метры, агароджы няма. Выратавацца яму не ўдалося.

### Знайшлі па пояс у балоце

Заблукалага ў лесе 70-гадовага жыхара Гомельскага раёна ратавальнікі знайшлі па пояс у балоце. Мужчына пайшоў раніцай у грыбы, а ўвечарыператэлефанаваў сыну з мабільніка і паведаміў, што заблукаў каля вёскі Цыкуны. Пажылы чалавек паспеў, пакуль не разрадзіўся тэлефон, сказаць, дзе знаходзіцца, зарыентаваўшыся па апорах ліній электраперадачы. Ратавальнікі абшукалі 15 км лесу, пакуль знайшлі чалавека.

### Па факце атручвання школьнікаў у Мазыры заведзена справа

У Мазыры распачата крымінальная справа паводле артыкула «Парушэнне санітарна-эпідэміялагічных правілаў, што пацягнула па неасцярожнасці захворванне людзей». Нагадаем, 19—20 верасня ў гарадскую бальніцу з харчовымі атручваннямі быў дастаўлены 71 школьнік з 4 школ і гімназіі горада. На сняданак у чацвер, 19 верасня, школьнікі елі бульбяное пюрэ, адварную каўбасу, салату з агароднінi і глазураваныя сыркі. Увечары многія дзеці адчулі боль у страўніку. Мабыць, сапсаванымі былі прадукты, прывезеныя ў навучальныя ўстановы дзяржпрадпрыемствам «Школьнае харчаванне».

### Двое сутак блукаў у пошуках журавінаў

Два дні блукаў па балотах 20-гадовы жыхар Ганцавіцкага раёна. 19 верасня ён пайшоў у журавіны і знік. Жыхара вёскі Раздзяловічы шукалі 19 чалавек — ляснікі, міліцыянты, проста неабыякавыя. Урэшце, уключылі сірэну, на гук якой ён і выйшаў. Патрэбы ў шпіталізацыі гора-ягаднік не меў.

### Разлічваўся чужой карткай: аплацію на тры мільёны

Жыхар Астравецкага раёна А. разлічваўся ў крамах па чужой банкаўскай картцы, а гаспадар думаў, што згубіў яе. А. скраў картку ў доме-інтэрнаце ў вёсцы Альхоўка з кішэні курткі на вешалцы. І раскашаваў: плаціў праз тэрміналы, у якіх не трэба ўводзіць пін-код, — набываў ежу, плаціў за тэлефон... Патраціў больш за тры мільёны рублёў.

Пацярпелы ж думаў, што картку проста згубіў. Калі прыехаў у банк па новую, зразумеў, што частка грошай знікла. А. прызнаў віну. Суд прызначыў яму пакаранне — пазбаўленне свабоды на адзін год, але з адтэрміноўкай на год. Ён павінен выплаціць пацярпеламу скрадзеныя грошы. Суд прымусіў яго лячыцца ад хранічнага алкагалізму. А. 42 гады. Ён жыве ў вёсцы Альхоўка Астравецкага раёна. Мае сярэднюю адукацыю. Халасты. Раней судзімасцяў не меў.

**СМ**

# Альгерд Бахарэвіч вярнуўся з эміграцыі ў Беларусь

Пісьменнік апошнія гады жыў у Гамбургу.

«Гэта стала нечаканасцю для мяне самога, — кажа сп. Альгерд. — Я прыехаў у Мінск на тры дні, а жыву тут ужо тры месяцы».

На прэзентацыі рамана «Шабаны» летась Альгерд Бахарэвіч казаў, што не лічыць магчымым сваё вяртанне на радзіму ў найбліжэйшы час. Аднак цяпер ён плануе застацца ў Мінску як мінімум на год.

«Калі б мне хто-небудзь сказаў яшчэ вясной, што вярнуся ў Беларусь, я б вельмі здзівіўся, — кажа Бахарэвіч. — Напэўна, тое, што адбываецца зараз можна назваць «вяртаннем», калі так увогуле можна называць нешта ў жыцці. Прычыны майго вяртання вельмі прыватныя, пра іх я пакуль расказваць не буду».

Юрась Ускоў




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Альгерд Бахарэвіч**
Аўтар кніг «Ніякай літасці Валянціне Г.» (2006), «Праклятыя госці сталіцы» (2008), «Сарока на шыбеніцы» (2009), «Малая медычная энцыклапедыя Бахарэвіча» (2011), «Шабаны» (2012) і інш. Ад 2006 г. жыў у Гамбургу.

**Фотафакт**



22-гадовы Яўген Саўчанка з Гомеля ўвайшоў у лік сусветных топ-мадэляў. «Давялося зняцца для Vogue Italia з іконай стылю Крыстэн Мак-Менамі і фатографам № 1 у свеце Стывенам Мэйзелам, а яшчэ для New York Times са свецкай ільвіцай, мадэллю, дызайнерам, калекцыянерам адзення, спадкаемцай імперыі Guinness Дафна Гінэс», — кажа Яўген у інтэрв'ю выданню «7 дней». У мадэлі ён трапіў выпадкова. Яго проста пабачыла на прыпынку дзяўчына з гомельскага мадэльнага агенцтва ды прапанавала прыйсці да іх.

## 83-гадовы Джордж Сорас пабраўся трэцім шлюбам

У яго гэта трэці шлюб, у 42-гадовай Таміка Болтан — другі.

Папярэднія сужэнства ў Сораса распалася ў 2005-м. Джордж Сорас — таленавіты інвестар, які сабраў багацце, што ацэньваецца прыкладна ў 20 мільярдаў даляраў. Аднак яшчэ большую вядомасць ён здабыў як філантроп.

У апошнія дзесяцігоддзі большасць сваіх прыбыткаў ён укладаў у дабрачыннасць. Open Society Foundation прафінансавала самыя розныя праекты ў дзясятках краін на 7 мільярдаў даляраў.

У Беларусі Фонд Сораса зачынілі ў 1997-м, бо ён падтрымліваў незалежныя СМІ. Пасля забароны фонду ў нашай краіне ён працягваў дзейнасць, разлічаную для беларусаў, з-за мяжы. Яго прыярытэтам была падтрымка беларускай культуры і незалежных ініцыятыў.

Джордж Сорас нарадзіўся перад вайной у Венгрыі і цудам выжыў у часе Халакосту. Пасля вайны яму ўдалося эміграваць з камуністычнага рэжыму на Захад.

Вяселле пачалося вячэрай і прыёмам у Музеі сучаснага мастацтва на Манхэтэне ў Нью-Ёрку. На наступны дзень у коле сям'і —у прысутнасці ўсіх пяцёх дзяцей Сораса — адбылася цырымонія роспісу. Пасля гэтага ў адным з мастацкіх цэнтраў у штаце Нью-Ёрк прайшла вясельная вячэра.

Са сваёй абранніцай Сорас упершыню сустрэўся на вячэры ў 2008 годзе. Яна родам з Каліфорніі, дачка медсястры і афіцэра-марака. Працавала кансультантам у галіне адукацыі і аховы здароўя. Яе апошнім праектам было навучанне ёзе праз інтэрнэт.

Надзвычай багаты чалавек, Сорас застаецца даволі сціплым у побыце. Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін прыгадваў, як у часе сваёй сустрэчы з філантропам у 1990-х ён найбольш уразіўся тым, як Сорас з'ядаў усё на талерцы і нават вымочваў падліву хлебам.

Вядома, што асноўную частку свайго багацця Сорас завяшчаў дабрачынным фундацыям.

Сяргей Гезгала





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Паміж мовай і мовай

...Шпацыравалі з сябрам па скверы, што побач з вуліцай Багдановіча і плошчай Бангалор, вяла спрачаліся аб нечым, звыкла не звяртаючы ўвагі на недарэчнае спалучэнне мінскай тапанімікі. Падчас спрэчкі, што вялася па-руску, я працытаваў сказ з беларускамоўнага тэксту. І раптам пачуў: «А ты праз мову ўжо зусім стаўся нацыяналістам...»

Ні асуджэння, ні ўхвалення я не заўважыў — нейкая бясколерная, без адценняў, канстатацыя. Але задумаўся: як гэта праз мову можна стацца нацыяналістам? Ці камуністам... Ці сацыял-дэмакратам... Ці лібералам...

Сябар мой, дарэчы, ліберальных поглядаў, выдатна валодае беларускай мовай, карыстаецца ёй па патрэбах. Але ў асноўным — рускай. Дык што, праз ужыванне той ці іншай мовы вызначаецца прыналежнасць да палітычнай плыні і ўвогуле — палітычны лад?

Многія лічаць, што ў Беларусі з яе балючай моўнай драмай — вызначаецца. Некаторыя публіцысты з ужывання ці не ўжывання беларускай мовы ўвогуле робяць нейкую прыладу накшталт «свой-чужы».

Цікавы нарыс пра рускіх у Эстоніі, нават пры штучнасці шэрагу высноў з тамтэйшых назіранняў, Дзмітрый Галко пачынае з прызнання, што «большую частку жыцця... карыстаўся рускай мовай. Яна была першай, вывучанай у дзяцінстве, і цяпер застаецца асноўнай мовай зносінаў». Але калі «...мова — культурны код, у якім закладзена філасофія жыцця чалавека, яго сістэма каштоўнасцей, стыль паводзін, лад мыслення, руская з цягам часу робіцца для мяне ўсё больш чужой. І гэта ненармальна — пастаянна ў глыбіні душы адчуваць сябе чужым сярод чужых на сваёй зямлі».

Разумею шчымлівасць, з якой аўтар робіць гэта прызнанне, бо ў «чужыя» трапляе пераважная большасць беларусаў. Але ці не хаваецца за гэтай шчымлівасцю пэўная няшчырасць? Што, калі аўтар карыстаецца беларускай мовай, ён беларус, а калі рускай — «чужы» беларус? То бок і не беларус, а немаведама хто з немаведама якой «філасофіяй жыцця» і «сістэмай каштоўнасцяў»?

Адмаўляць мове ва ўплыве на «лад мыслення» і «стыль паводзін», вядома, не выпадае. Але я не ведаю аніводнага рускамоўнага беларуса — ні з гарадскіх, ні тым больш з вясковых — чый лад і стыль цалкам не беларускія. Родная мова жыве не толькі і не столькі ў культурным, як лічыць Галко, кодзе беларусаў, бо культура і нацыянальная адметнасць нішчыліся разам з мовай, але найперш у тысячагадовым — «ад прадзедаў спакон вякоў» — кодзе беларускіх пакаленняў. І ў гэтым, упэўнены, паратунак і моўная будучыня нацыі.

## Адна справа — русіфікацыя, іншая — руская мова

Дык чаму ж «чужы»?

Няўжо частка беларускамоўнай інтэлектуальнай эліты сапраўды верыць у тое, што калі рускамоўнаму беларусу без перадыху дзяўбсці, які ён «чужы», і мова (дакладней, яе ўсеагульнае ўжыванне, бо мова, дзякуй Богу, жыве) адродзіцца, і беларус урэшце рэшт стане «сваім»?!

Не, нельга блытаць стаўленне да моўнай палітыкі са стаўленнем да рускай мовы як да «чужой».

Іншая? Так. Замежная? Магчыма. Але ўсё ж такі ў абмежаваным, геаграфічна-палітычным, так бы мовіць, сэнсе. Бо нельга не ўлічваць, што ў розных народаў станаўленне мовы адбывалася ў розных гістарычных абставінах. І адносіцца да рускай мовы, як, напрыклад, да англійскай — глупства, якое толькі пашырае непаразуменне паміж беларусамі. Роўна праз год пройдзе рэферэндум аб незалежнасці Шатландыі. І што, калі шатландцы выкажуцца «за», дык адмовяцца ад англійскай мовы і з імпэтам пачнуць карыстацца толькі кельцкай?..

Немагчыма, зразумела, параўноўваць сумнавядомы лукашэнкаўскі моўны рэферэндум з шатландскім аб незалежнасці — розныя метады і розныя мэты. Лукашэнкаўскі, што зрабіў рускую мову дзяржаўнай, — супраць незалежнасці, у працяг русіфікацыі, яшчэ больш жорсткай, чымсьці ў СССР.

Але адна справа — русіфікацыя, іншая — руская мова.

У пэўным сэнсе руская мова таксама ахвяра русіфікацыі. З чаго яшчэ, як не з гэтай ганебнай палітыкі, ужыванне рускай мовыператвараецца, так бы мовіць, у злоўжыванне, а сама яна абвяшчаецца «чужой» ці нават «акупацыйнай»?! Дарэчы, таксама блытаніна паміж акупацыяй і анексіяй, якая па наступствах яшчэ горш...

Аднойчы да мяне трапіў ліст, аўтар якога з вялікім жалем і занепакоенасцю пісаў пра наведанне і нежаданне ведаць і ўжываць родную мову. Але вось выснова: «...каб змяніць чужую мову на сваю, трэба, па-першае, зразумець шкоднасць чужой мовы і культуры...»

Я не ведаю, як можна гэта зразумець.

Я наогул не ведаю, як страх перад «чужой» мовай і культурай і, адпаведна, моўная і культурная абмежаванасць, не кажучы ўжо пра варожасць, здольны спрыяць распаўсюду і развіццю нацыянальнай мовы і культуры. Падобна на тое, як пагардлівае стаўленне да беларускай мовы з боку адэптаў «великой и неделимой» ёсць на самой справе цемрашальства, не маючае аніякіх адносінаў да культуры і ўвогуле чалавечай годнасці.

Дык навошта нам такое падабенства? Каб «людзьмі звацца»?

Не, мала сёння людзьмі звацца. Трэба яшчэ заставацца людзьмі.

# Паліўны кароль Аляксандр Цэнцер: «Я езджу на працу на ровары»

Адзін з найбуйнейшых нафтавікоў расказвае пра свае **жыццёвыя прынцыпы**.

Два гады таму ў спісе самых пасьпяховых і ўплывовых бізнэсмэнаў Аляксандр Цэнцер займаў 51-е месца. Ягоная справа працягвае квітнець, ён выконвае новыя і новыя праекты і падымаецца ў рэйтынгу мільянераў усё вышэй.

Бізнэс Цэнцера мае некалькі асноўных накірункаў. Па-першае, гэта тры дзясяткі аўтазаправак у Мінску, Брэсце і Магілёве. Па-другое, сетка з чатырох рэстаранаў «Сан Кафэ». І нарэшце — будаўнічы бізнэс.

Падраздзяленне «А-100 Дэвэлапмент» пабудавала два мікрараёны пад Мінскам. «Зялёны Бор» знаходзіцца на поўначы горада, а «Зялёныя горкі» — на поўдні, у Сенніцы. Асаблівасць гэтых кварталаў у іх аўтаномнасці, гэта такія «гарады ў горадзе».

Зрэшты, і сам Цэнцер жыве ў ізаляванай прасторы. Ягоны дом знаходзіцца ў закрытым катэджным пасёлку на ўскрайку сталіцы, у які можна трапіць толькі праз кантрольна-прапускны пункт. Стылёвы двухпавярховік з пакатым дахам вылучаецца на фоне падобных збудаванняў.

Днямі мільянер даў інтэрв'ю «Ежедневніку».

**— Скончыўшы БДПА, наваяўлены інжынер-механік даволі хутка сышоў у бізнэс. Адчуў, што ў «ліхія 90-я» можна зарабіць?**

— Я інжынер у трэцім пакаленні — пасля бацькі і дзеда — і дагэтуль лічу сябе інжынерам. У 90-я многія мянялі працу — настаўнікі, дактары. Папрацаваўшы год у канструктарскім бюро, я зразумеў, што гэтая дзейнасць не запатрабаваная, і азірнуўся паглядзець, што адбываецца навокал.

**— Запраўкі сталі першым напрамкам дзейнасці «А-100». На пачатку бізнэсу, калі грошай было менш, іх бралі ў арэнду?**

— Мы пачалі з продажу паліва праз перасоўную заправачную станцыю — бензавоз ГАЗ-53 выпуску пачатку 80-х, празваны «Зінка». Аўтамабіль з цыстэрнай у 4620 л штораніцу запраўлялі на нафтабазе, а потым гандлявалі палівам. Сёння гэты бензавоз стаіць на пляцоўцы каля офіснага будынка кампаніі, ён — адзін з экспанатаў нашага будучага музея.

**— Гандаль нафтапрадуктамі знаходзіцца пад пільным кантролем дзяржавы, якая не надта ахвотна пускае сюды прыватнікаў. А ў вас атрымалася не толькі ўвайсці ў запраўны бізнэс, але яшчэ і стаць першым прыватнікам. Складаная гэта справа?**

— Напрамкаў у тыя гады было некалькі, займаліся ўсім, што падвернецца. Памятаю, мае партнёры запэўнівалі, што гандаль палівам нерэнтабельны і неперспектыўны, прапаноўвалі заняцца тэлевізарамі або мясам. Знаёмыя, якія гандлявалі снікерсамі, багацелі на вачах, куплялі новыя дарагія машыны. А ў нас — гайкі, змазкі, капейкі.

**— Але на першы аўтамабіль зарабілі менавіта дзякуючы паліўнаму бізнэсу?**

— На «Масквіч-2141» збіраў пачынаючы з шабашак і будатрадаў. Каштаваў ён 3000 савецкіх рублёў, быў доўгім, цяжкім і вельмі павольна разганяўся. Даходы ў тыя часы былі невялікімі і часам меншымі, чым у супрацоўнікаў дзяржпрадпрыемстваў. Памятаю свой першы буйны заробак — $250.

«Масквіч» прадаў, каб купіць бензавоз. Наступную машыну, VW Golf, сам прыгнаў з Германіі. Ледзь не 20-гадовы, ён быў з аўтаматычнай каробкай перадач — вялікая рэдкасць па тых часах. Паездзіўшы год-паўтара, купіў новую Toyota Corolla залацістага колеру ў кузаве ўніверсал. Гэта была падзея: у сярэдзіне 90- х у нас яшчэ не было салонаў, а машыны ганялі, калі не памыляюся, з Фінляндыі.

Я фанат Toyota і лічу яе найлепшай. За ўвесь час у мяне было 5–6 аўтамабіляў гэтай маркі.

**— Ваш цяперашні аўтамабіль — Toyota таксама?**

— Не, Infinity.

**— Чалавек, які трапіў у топ-200 па версіі «Ежедневніка», вырашыў, нарэшце, перасесці на прэміум-клас?**

— Не. Куды часцей я езджу на службовым электрамабілі Nissan Leaf, які лічу і самым прэстыжным, і прыемным. Меркаваннямў, быццам машына павінна быць статуснай, не прытрымліваюся. Але Infinity патрэбны, бо ў сям'і чацвёра дзяцей. Калі я купляў гэты аўтамабіль, у Toyota не было неабходнай колькасці месцаў.

**— Ці бачыце дзяцей у сваім бізнэсе?**

— Яны павінны вызначыцца і самастойна знайсці месца, на якім будуць пачувацца камфортна. А для гэтага адзін шлях — вучыцца. Сёння ў нашым бізнэсе хапае таленавітых людзей, стратэгічнай мэты ўвесці ў яго сваіх дзяцей не стаўлю.

**— Але ж, напэўна, хтосьці з іх ужо цікавіцца машынамі або запраўкамі?**

— Ні ў каго няма вадзіцельскага пасведчання — старэйшай дачцэ хутка 18 гадоў, і я не ўпэўнены, што, нягледзячы на навыкі кіравання аўтамабілем, у іх ёсць нейкія перавагі. Першы аўтамабіль, калі стане пытанне куплі, будзе патрыманым і бюджэтным, суразмерным з тымі, на якіх пачынаў я.

**— А вось мне здавалася, што заможныя людзі дораць дзецям новыя і дарагія аўтамабілі не толькі з-за статусу, але яшчэ і надзейнасці…**

— Дарыць дзецям машыны не збіраюся. Ведаеце, як у Бібліі: «Я дам вам не рыбу, але вудзільна». Так, сям'я павінна ездзіць на надзейных і бяспечных аўтамабілях. Але любая машына — кансервавая бляшанка, бяспека якой вызначаецца, у першую чаргу, паводзінамі кіроўцы. Дарэчы, больш сціплая машына і правакуе на дарозе менш.

**— «Я ўпэўнены, што аддаць грошы маім дзецям — не лепшая ідэя. Гэта не было б карысна ні для саміх дзяцей, ні для грамадства», — сказаў Біл Гейтс. Ці падтрымліваеце гэтага і іншых вядомых багатых людзей, якія заявілі, што не пакінуць дзецям спадчыну?**

— Я на гэтую тэму яшчэ не думаў — грошай не так шмат, як у Біла Гейтса, іх пастаянна не хапае для развіцця. Ці даваць дзецям грошы — пытанне педагагічнае, мяркую, што іх трэба навучыць зарабляць, усё роўна, шмат ці мала, галоўнае, каб цябе за гэта паважалі. І трэба крыху пачакаць, каб даведацца, што за людзі вырастуць з дзяцей Гейтса.

**— Якога ўзроўню павінен дасягнуць дырэктар кампаніі, які кіруе аўтамабілем самастойна, каб саромецца перад партнёрамі, якіх на дзелавую сустрэчу прывёз кіроўца?**

— Мне падабаецца чытаць навіны, скажам, пра дырэктара буйнога банка Амстэрдама, які прыязджае на працу на ровары. Я сам езджу на працу на ровары і лічу, што прыехаць на сустрэчу на аўтамабілі перадавых тэхналогій, электрамабілі, значна круцей, чым сядзець на пасажырскім месцы дарагой машыны.

**— Іншымі словамі, Nissan Leaf лепшы за Infinity?**

— Infinity і побач не стаяў у параўнанні з лупаценькім Nissan Leaf! З аднаго боку — вялікі матор, які спажывае 16 літраў на 100 км, з другога — перадавыя тэхналогіі, экалагічнасць і ментальны эфект. Гэта як паляцець па турпуцёўцы ў космас, зрабіць гучны выклік. Падчас перамяшчэння на NissanLeaf па горадзе прыкладна 1–2 кіроўцы з сотні звяртаюць на яго ўвагу і ўхвальна паказваюць вялікі палец. Яны разумеюць, што гэта будучыня, экалогія.

**— БДПА, дзе вы вучыліся, лічыцца рэкардсменам па ліку выпускнікоў, якія сталі бізнэсмэнамі. Прычына поспеху — у вывучэнні дакладных навук?**

— Не, гэта проста самая вялікая ВНУ. Акрамя таго, лічыцца, што найбольш прагматычныя людзі не выдатнікі, а троечнікі. Выдатнікі ішлі ў БДУ, а прыземленыя людзі, рэалісты — у РТІ і палітэх.

**— Няўжо ў школе вы былі троечнікам?**

— Не, у маім атэстаце толькі пяцёркі, хоць залатога медаля я не атрымаў. У інстытуце было па-рознаму: цікавыя мне тэхнічныя прадметы і інжынерныя навукі вучыў, палітэканомію і марксізм-ленінізм — не. Шкадую, што не займаўся мовамі — пазней давялося наганяць.

**— Сярод выпускнікоў БДПА такія людзі, як Юрый Чыж («Трайпл»), Віталь Арбузаў (Fenox Global Group), Сяргей Савіцкі («Атлант —М») , Упендра Махата («Амкадор»). Ці былі знаёмыя з імі падчас вучобы і ці падтрымліваеце адносіны цяпер?**

— З Арбузавым знаёмы, з Чыжом сустракаўся, Савіцкага не ведаю. У лік маіх сяброў гэтыя людзі не ўваходзяць. Падтрымліваю стасункі з тымі, хто падзяляе мае захапленні — авіяцыю і ровары. Нам цікава размаўляць, а гэта ні ад статусу, ні ад брэнду гадзінніка на тваёй руцэ не залежыць. Названыя вамі — работнікі і ў добрым сэнсе прадпрымальнікі. Веру, што такія, як яны, куюць будучыню нашай краіны.

Алена Анкуда, ej.by



Катэдж Цэнцера каля Цнянскага вадасховішча на паўночным захадзе Мінска схаваны ад гасцей двума платамі.

Сяргей Гудзілін



Аляксандр Цэнцер валодае аўтазапраўкамі і кавярнямі, а таксама будуе жылыя кварталы.



Стракатыя панэлькі «Зялёных горак» у Сенніцы.




На працоўныя электрамабілі перасаджваецца мала хто з беларускіх мільянераў.

Украіна дасягнула ашаламляльнага поспеху — па вяртанні з Львова піша **Наталка Бабіна**.

# Не ўмерла і



Наталка Бабіна (справа) і Марыя Мацiос.

...Як вядома кожнаму свядомаму беларусу, цягнік 371 «Магілёў—Чарнаўцы» прыбывае ў Львоў а 5.52 раніцы. У тую цёмную раніцу над Львовам шумела залева. Цягнучы за сабой валізу на колах, я выйшла на прывакзальную плошчу «міста». Мяне чакалі тры дні ўдзелу ў Форуме выдаўцоў у Львове.

### Выдавецтва «Урбіно» і «Рибгород»

Чатыры паверхі Палаца мастацтваў, пляцоўка ў двары, рады палатак на праспекце Свабоды запоўненыя кнігамі самых розных украінскіх выдавецтваў. Уваход на кірмаш — платны, але людзей — не ўпхчаміцца.

Гэта я ўжо назіраю за жыццём Форуму са стэнда львоўскага выдавецтва «Урбіно», якое толькі што выдала ўкраінскі пераклад майго рамана — па-ўкраінску ён гучыць як «Рибгород».

«Ну добра, купілі. А як цяпер месяц жыць будзем?» — пытаецца адзін сябра-студэнт другога, узважваючы на руцэ ладны пакет з кнігамі. Але неяк жа пражывуць!

«Дайце дэтэктыў Краеўскага, той, дзе дзеянне ў Львове адбываецца!» — патрабуе курсант школы міліцыі ў форме і, атрымаўшы патрэбнае, стравым крокам адыходзіць.

### І негры гавораць

«Дзе ёсць тут выдавецтва Кіеўскага політэхнічнага?» — з акцэнтам пытаецца адзін з групы маладых неграў.

Тут я ўжо не вытрымліваю. За гэтыя дні я заўважыла, што зараз у Львове рускую мову можна пачуць толькі ад турыстаў.

«Так, у нас і негры гавораць! — смяецца ў адказ на мае акругленыя вочы Анатоль Іўчанка, уласнік выдавецтва «Урбіно». — Гэта замежныя студэнты. Яны вучацца тут, і, натуральна, вучацца па-ўкраінску».

**Украіна**

Краіна на поўдзень ад Беларусі. Насельніцтва Украіны ў 5 разоў большае, чым Беларусі. ВУП на душу насельніцтва ў 2 разы ніжэйшы. Украінская мова найбліжэйшая да беларускай: большасць лексікі падобная, граматыка практычна аднолькавая, адрозніваецца найбольш фанэтыка.

**Львоў**

Цэнтр Заходняй Украіны. У XIX-XX ст. арэна змагання польскага і ўкраінскага руху. У часы нямецкай і савецкай акупацыі польскі элемент у горадзе быў практычна вынішчаны, цяпер гэта цалкам украінскамоўны горад.




### «Наталко, підпишы!»

З прастрацыі мяне выводзіць патрабавальны голас Анатоля: «Наталко, підпишы!» — гэта значыць, яшчэ адзін наведвальнік набыў асобнік «Рыбгороду», і я маю паставіць аўтограф.

Шчыра кажучы, я не вельмі спадзявалася на ажыятаж у адносінах да маёй кнігі — ці шмат каго ва Украіне цікавіць беларуская літаратура? Але, на маё здзіўленне, яе досыць актыўна купляюць. На Форуме прадалося 130 асобнікаў.

Украінцы, рэальна, чытаючая нацыя. Яны цікавяцца навінкамі.

### Жонка перакладае, муж выдае

Выдавецтва «Урбіно» — маладое, яго толькі нядаўна стварылі муж і жонка, Анатоль Іўчанка і Бажэна Антаняк. Яно спецыялізуецца на перакладной літаратуры, найчасцей польскай. Жонка перакладае, муж выдае.

Выдаюць кнігі для падлеткаў — Іаана Ягела, Барбара Касмоўская, дэтэктывы — Марэк Краеўскі, Зігмунд Мілашэўскі. Ну і прымкнуўшую да іх Бабіну.

«Разумееш, мы перакладчыкі. Перакладалі кнігі, якія сапраўды цудоўныя. Але надакучыла хадзіць па выдавецтвах, угаворваць выдаць тую ці іншую кнігу. Гэта так цяжка — перакананць выдаўца! І мы вырашылі стварыць сваё выдавецтва, каб выдаваць тое, што нам цікава», — тлумачыць Бажэна.

Цяпер у выдавецтва «Урбіно» ужо ёсць свае сталыя чытачы, якія сочаць за навінкамі і давяраюць густу выдаўцоў. Калі Анатоль рэкламуе маю кнігу, пакупнікі час ад часу пытаюцца ў яго: «А хто перакладаў, Бажэна Антаняк? Тады давайце».

### Камерцыя і культура

Кніжкі на Форуме нятанныя (усё астатняе ва Украіне трохі таннейшае, чым у нас: і ежа, і вопратка). Мая кніга, напрыклад, — 268 старонак, цвёрдая вокладка — каштуе 40 грывен, на нашы грошы — 45 тысяч.

Да слова, грыўна — стабільная нацыянальная валюта, курс якой на працягу пяцігоддзя не мяняўся.

На што яшчэ мімаволі звярнула ўвагу — тут сярод выдаўцоў і аўтараў не прынята, як у нас, дарыць адно аднаму кнігі, якія выйшлі. Трэба табе нешта — набывай. Такая прыкмета камерцыялізацыі культуры, якая, аднак, не выклікае адпрэчвання.

### Корпус украінскіх інтэлектуалаў

Пра Яраслава Грыцака я шмат чула. Ягоная кніга «Пророк у сваёй Айчыне: Іван Франко і ягонае супольнасць» выдатная. Грыцак — геніяльны гісторык.

І вось я маю нагоду пазнаёміцца асабіста: ён мадэратар дыскусіі «Жанчына ў гісторыі і гісторыя жанчыны», у якой бяру ўдзел і я.

Люстраная зала палацу Патоцкіх, дзе праходзіць дыскусія, перапоўненая. Калі слова даюць мне, я пачынаю з таго, што прашу дазволу гаварыць са спадарствам пабеларуску — і зала адразу ўспыхвае апладысментамі. І гэта так кранальна, што я імгненна супакойваюся.

Грыцак сярэдняга росту, смуглявы, прыгожы, валасы, як соллю, прысыпаныя сівізной і адкінутыя нібы ветрам. Ён мае спакойныя манеры і вельмі прыемны мяккі голас. А ў левым вуху яго — маленькая срэбная завушніца... У ім адчуваецца глыбіня ведаў і выдатнае пачуццё гумару.

— Як Вы ставіцеся да фемінізму? — гучыць пытанне з залы.

— На кожны «...ізм» ёсць свой» ... азм», — адказвае пан Яраслаў. — Да фемінізму стаўлюся добра, пакуль ён у фемінізм не пераходзіць.

Па заканчэнні імпрэзы перадаю пану Яраславу вітанні ад тых беларускіх нацыяналістаў, у каго ягоная кніга ляжыць на стале побач з Бібліяй.

— Лепшага кампліменту Вы мне не маглі б сказаць, — сардэчна адказвае ён.

Украінскіх інтэлектуалаў хочацца аб'яднаць словам «корпус». Корпус — як армейская адзінка і як сукупнасць тэкстаў. Корпус, намаганні якога ўліліся магутнай плынню ў агульную ўкраінскую перамогу.

### Марыя Мацiос

Гэтая жанчына таксама спрычынілася да ўкраінскай перамогі.

Марыя Мацiос, бясспрэчна, самая папулярная ўкраінская пісьменніца. Яе кнігі выдаюцца вялізнымі накладамі. Акрамя таго, яна народны дэпутат, правая рука лідара партыі «Удар», баксёра Віталя Клічко (прабачце за нявольны каламбур).

Гэта сапраўдная нацыянальная пісьменніца, ікона.

Варта ёй з'явіцца на стэндзе выдавецтва «Піраміда», якое выдае яе кніжкі, як там імгненна выстройваюцца даўжэзныя чэргі за аўтографам.

Марыя Мацiос — сапраўдная каралева ўкраінскай літаратуры, узор пісьменніка, які служыць свайму народу і сваёй нацыянальнай ідэі. Яе кнігі выдаюцца па ўсім свеце, але піша яна, безумоўна, толькі для ўкраінцаў. Для сваіх 40 мільёнаў.

«І я далей буду даследаваць наша ўкраінскае пекла, нашу трагічную гісторыю,» — гаворыць яна ўпарта. Макіяж, прычоска з чорных, як воран, валасоў, густоўнае і моднае адзенне ў чорных жа колерах (да слова, мода ва Украіне таксама мае выразныя нацыянальныя рысы) — усё складаецца ў адзін бездакорны вобраз. «Гуцулка до мозку кісток», — гаворыць яна пра сябе, і, відочна, яе чытачы цэняць гэта.

Вось, да слова, былы наш Сяргей Дарафееў гаворыць з ёй у сваёй перадачы на ўкраінскім канале.

На Форуме яна прадстаўляе новую сваю кнігу — «Чаравічкі Божай маці». Гэта пранізлівая гісторыя пра сямігадовую дзяўчынку, якая адбываецца ў чэрвені 1941 года — у час масавых дэпартацый украінцаў.

«Чаравічкі...» варта было б перакласці на беларускую.

...Да мяне пані Мацiос некалькі разоў звярталася — «дытыно!» І я, малодшая толькі на 7 гадоў, 47-гадовая маці трох дзяцей, не крыўдавала, але адчувала спакой

**«Рыбін горад» Наталкі Бабінай**

раман, што выйшаў у выдавецтве «Наша Ніва« ў 2007. Паядноўвае рысы палітычнага дэтэктыва, прыгодніцкага і жаночага рамана. Перакладзены на польскую, расейскую, украінскую, ангельскую. Стаў першай за 10 гадоў мастацкай кнігай у перакладзе з беларускай мовы, што стала камерцыйным поспехам у Польшчы (прадалося 14 тысяч асобнікаў, трапіла ў шорт-ліст прэміі «Ангелус«).

**«Рыбгорад«**

Так называецца ўкраінскі пераклад рамана Бабінай. Апублікаваны ў Львове накладам 1000 асобнікаў. Прадаецца па 40 грывень (5 даляраў).



# не ўмрэ

дзіцяці, над якім арліцай крые маці, галава роду...

**Помнік мяне не цікавіць**

Арганізацыяй Львоўскага форуму ўсе гэтыя гады займаецца некамерцыйны фонд «Форум выдаўцоў у Львове». А бязменны кіраўнік гэтага фонду — пані Аляксандра Каваль.

Форум — грандыёзная для ўкраінскай культуры з'ява.

Калі я сказала гэта гранічна стомленай у апошні дзень Форуму пані Аляксандры і выказала думку, што ўкраінцы маюць паставіць пані Каваль прыжыццёвы помнік за ўсё, што на працягу гэтых дваццаці гадоў яна зрабіла для ўкраінскай культуры і дзяржавы, яна адказала, што «помнікі і граматы мяне не цікавяць. А вось грошай для арганізацыі наступнага Форуму мне патрэбна больш».

Так, грошай для арганізацыі Форуму патрэбна нямала!

Напрыклад, суткі ў гатэлі «Рэйнкранц», дзе пасялілі мяне, каштуюць 800 грыўняў — 100 даляраў. А гасцей Форуму — сотні. Кожнаму з нас выдаюць яшчэ і такія адмысловыя талоны на харчаванне ў рэстаранах у цэнтры горада. Мне дастаюцца талоны ў «Піцу Чэлентана», «Япону хату» і «Яўрэйскую кнайпу»...

Дзеля чаго ўсе гэтыя траты? Можа, Форум — гэта папросту тусоўка, можа, ён не мае ўплыву на жыццё?

Не. Адназначна, не. Я гэта бачу, гледзячы на тое, як жыве цяпер Украіна. І вось тут мне робіцца сорамна.

А мы тут, у Беларусі, што робім? Ці робім тое, што трэба, каб наступнае пакаленне магло рухацца далей? Ці агарглямур ужо канчаткова перамог?

Бо маё галоўнае і самае натхняльнае ўражанне не столькі нават ад самога кніжнага кірмашу, колькі ўвогуле ад горада: Украіна ўжо пераадолела пункт невяртання. Украінскай мове, украінскай незалежнасці ўжо нічога не пагражае.

Ня ўмерла Ўкраіна і ня ўмрэ.

**Ашаламляльны поспех**

Моладзь нават з пэўнай ironіяй ставіцца да заклінанняў пра Тараса, да гераізацыі УПА, да песняў і танцаў у нацыянальных строях... Яны вырашаюць іншыя праблемы. Але вырашаюць паўкраінску і дзеля Украіны.

І сівенькія старыя, што вечарамі гуляюць у шахматы на лавачках на праспекце Свабоды, на моладзь, падалося, не крыўдзяцца. Яны, гэтыя старыя, у свой час адседзелі ў ГУЛАГу. Вось дзеля таго, каб сённяшняя моладзь магла рухацца далей. Яны гэта забяспечылі сваімі жыццямі.

Калі я падзялілася гэтымі думкамі з гледачамі львоўскага тэлеканала ZIK у адмысловай перадачы, прысвечанай падзеям Форуму, вядучы запярэчыў мне: «Ну, вы ідэалізуеце Украіну! У нас поўна праблем».

Ідэалізую, не спрачаюся. Але асноўную сваю праблему — захаванне дзяржаўнасці, захаванне нацыі і мовы — украінцы вырашылі, з нечаканым для нас ашаламляльным поспехам. Хочацца прааналізаваць, дзякуючы чаму гэта адбылося?

Ці мы, беларускія пісьменнікі, беларускія інтэлектуалы, робім усё, каб мець уплыў на жыццё?

Прынамсі, разумею я, я раблю не ўсё.

Мае вочы замыліліся.

Мае мазгі зацерушыліся ідыятызмамі афіцыёзу.

Я мала працую.

Але, бачыць Бог, я буду працаваць больш. Трэба працаваць больш — я зразумела гэта на Форуме ў Львове, на гэтым балі ўкраінскай кнігі і ўкраінскага духу.

«100 даляраў за выезд», — думаю ў саборы святога Юра.

У нядзельны ранак — да пачатку працы Форуму — я прыходжу ў сабор святога Юра — галоўны сабор грэка-каталікоў Украіны, блізка якога я жыву.

Я гляджу на людзей, якія прыйшлі на службу: на багата апранутых маладых мужчын, на моладзь з заплечнікамі, на сівавусых старых, на модніц у выкшталцоных спадніцах і на «підборах».

Я падыходжу да цудатворнай іконы Божай маці, якая захоўваецца тут.

У XVI стагоддзі з гэтай іконай запарожскія казакі хадзілі ў свае паходы, у тым ліку і на палякаў. У XXI стагоддзі паляк папа Ян Павал II падараў гэтай іконе свой асабісты ружанец, з якім ён маліўся ўсё жыццё. Гэты ружанец цяпер прымацаваны да яе, як каралі.

Маладая прыхаджанка апускаецца перад іконай на калені, сталы мужчына за ёй малітоўна складае рукі.

А я думаю, што тыя 100 даляраў за выезд, пра якія ваяўніча пракрычалі ўлады, уводзяцца не дзеля таго, каб беларусы не ездзілі за халадзільнікамі. Пошліну ўводзяць, каб абмежаваць нашы выезды ў Свабодны Свет. Туды, дзе людзі абапіраюцца на духоўную моц продкаў. Каб беларусы не маглі трапіць у сваю Мекку — Вільню. Каб не маглі трапіць у Львоў.

Але кожны маразм сканчаецца. І скончыцца абавязкова.

І так будзе!



Бронзавы псіхіятар, пісьменнік Захер-Мазох стаіць у Львове ля дома, дзе некалі жыў. Львявяне ўжо стварылі легенду: каб шчасціла, трэба засунуць руку у кішэню ягоных нагавіц.

# Беларуская глыбіня. **Багаўгнявіцельная**

Піша **Павел Севярынец**.

*Прачнецеся, п'яніцы,*
*і плачце і галасеце*
*усе, хто п'е віно...*
*Ёіл 1:5*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

— Харошы быў хлопец, — кажа кладаўшчык Леанідавіч, — ды спіўся.

— Гарэлка — гэта не выхад, — змрочна адгукаюся я.

— О! — І вочы барадатага Леанідавіча запальваюцца, нібы тыя агеньчыкі ў глыбокай нары. — Гарэлка — гэта не выхад. Гэта ўваход. У свет *алкагалю*.

Менавіта Алкагалю — з націскам на першае «А».

У сённяшніх Пружанах парадны ўваход у *свет Алкагалю* цяпер размяшчаецца за сем крокаў ад брамы гарадской школы №4. Адчынілі якраз да новага навучальнага года — зззяючая таемнымі самацветнымі пякельцамі крама Брэсцкага лікёра-гарэлачнага завода «Белалка». Называецца — «Sklад». Эс як знак даляра — і «клад». Расшыфроўвайце, бураціны. Чаму вас там вучаць у школе нумар чатыры: хімія — цэ-два-аш-пяць-о-аш плюс аш-два-о; біялогія — зліпанне эрытрацытаў, гіпаксія, цыроз печані ды разбурэнне мозгу, таксікоз, нервовыя клеткі масава адміраюць, гніюць і нараніцу праз мачапалавую сістэму вымываюцца ў каналізацыю (усім, хто ў школе не праходзіў: з пахмелля вы мочыцеся ўласнымі мазгамі), а зверху — бах! — гісторыя напалам з матэматыкай. «Водка СССР» сорак чатыры тысячы за нуль пяць, «Наркомовская норма» — пяцьдзясят чатыры. «Белоруссия» — дзевяноста восем дзвесце пяцьдзясят за нуль сем.

Для пружанцаў апошняй кропляй сталася тое, наколькі яскрава і відовішчна «Белалка» разам з тутэйшым райпо сцвяткавалі адкрыццё. Каляровыя ўлёткі — па ўсім горадзе. Каляндарыкі «Brest vodka». Друк яксны, глянцавы. Мужчына ў белым строі з заражаным ірэкезам на галаве шпацыруе ў атачэнні курэй. Лозунг: «Жыть хорошо». Арганізацыям — цэлыя праспекты з калекцыямі фугасаў, што падміргваюць трохі асавелымі рознакаляровымі вачыма.

І дырэктар школы на прэзентацыі.

Так і не разумею: «Белая Русь» — гэта партыя ўлады або гарэлка?

Мясцовым, бы баранам, б'юць у лоб: пачынаць піць трэба са школы. Тады на ўсё астатняе жыццё кліенты белалкам, райпам ды афіцыйнаму бюджэту забяспечаныя.

Сяргей, праваслаўны вернік, штонядзелі з маленькай дачушкай на руках у царкве, заўжды стрыманы, а тут пайшоў на прыём да старшыні райвыканкама. Той разводзіць рукамі: дазвол, маўляў, даваў мой папярэднік, ён цяпер у Мінску дэпутатам, а я што?..

Пачалі збіраць подпісы. Ох, і выясняе яно нутро чалавечае, гэтае выпрошванне ды прастаўленне росчыркаў... Сабралі. Падалі 75. Для Пружанаў гэта падзея. Пракуратура і вобласць пачынаюць папераабарот, і райвыканкам мусіць хацяб выпусціць пару. Абвяшчаецца сход у вялікай зале, каля школы расклейваецца некалькі абвестачак.

Праўда, з размахам рэкламы «Белалка» гэтыя фігавыя лісціі не параўнаць. І сам сход абвяшчаецца ў будні дзень, ды яшчэ ў працоўны час — а 14-й.

На сходзе супрацоўнікі крамы ў відавочнай большасці. Праваслаўныя. Пастар пяцідзясятнікаў. Пастар баптыстаў. Настаўніца. Жыхары. Бацькі. Былыя алкаголікі, а цяпер вернікі-цвярэзнікі.

Намеснік старшыні паведамляе, што ў раёне бараццьба з п'янствам ідзе паспяхова. Прыкрываецца дзвюма прадавачкамі спіртнога з крамы — паглядзіце, гэтым дзяўчатам не будзе дзе працаваць.

Людзі гавораць — хто гучна, абурана, хто важка, хто роспачна. Рэха гасне пад скляпеннямі райвыканкамаўскай залы.

Заснавальнік савецкай улады стаіць на пустой плошчы, павярнуўшыся спінай, і робіць выгляд, што ён тут ні пры чым.

Маўчаць і прысутны на сходзе падпалкоўнік міліцыі — хаця каму, як не яму, давядзецца разграбаць наступствы падлеткавага алкагалізму.

Намеснік нецярпліва аглядае сход. Усё, час, хопіць вашай... хрысціянскай... дэмакратыі. Да адзінай, так сказаць, думкі мы не прыйшлі, у панядзелак дакладзем старшыні.

Уф, думаюць яны, на гэтым усё скончана, можна запіць вадзічкай.

Але тут усё толькі пачынаецца.

Толькі што на адну гадзіну вытворцам спіртнога ды раённай наменклатуры ўдалося ўвасобіць залатую мару хрысціянскай дэмакратыі: святары і вернікі ўсіх канфесіяў поплеч, харам адстойваюць у будынку адміністрацыі Божыя запаветы і здароўе горада.

Што ж, калі розныя канфесіі не з'яднала ані свабода, ані экуменічны рух, ані Евангелле — з'яднае сённяшні рэжым.

Прыйдзе, прыйдзе час, калі нацыю нарэшце званітуе ад выхлябанага пойла, калі «бухаць» і «набірацца ў хлам» перастане быць нормай, калі бутэлька звычайнай гарэлкі будзе каштаваць больш дзённы заробак, а свята стануць адзначаць малітвай у царкве, а не тварам у салаце.

Паводле Арлова, у даўніну ў Беларусі сёмая чара лічылася *багаўгнявіцельнай* — на ёй спыняліся.

А ў Пружанах, тых самых Пружанах, дзе 167 гадоў таму нарадзіўся найвялікшы рух за цвярозасць, які ахопіць 35 губерняў Расейскай імперыі, прыгоду, пякуча вабную чару сем разоў па семдзесят выставілі перад дзецьмі.

Чара, эпіцэнтр паганскіх абрадаў — выток *чарадзейства*, што выпускае на свет усе сем смяротных грахоў... На Пружаны з дваццацю тысячамі насельніцтва — 25 толькі афіцыйных пунктаў алкагольнага гандлю. А колькі напаўпадпольных прадаўцоў вагню пякельнага па «хрушчоўках» ды прыватных сектарах!

Зазіраеш у хмельную глыбіню тутэйшае будучыні, і займае немы халадок, і паветра дрыжыць ад выпарэння спірту.

«Спойваем? — пасмейваюцца чыноўнікі ды дзялкі. — Мы што ім, у горла ўліваем? Ды самі п'юць».

Але за кожны ўваход у пекла, адчынены, быццам ашчэранае горла, перад разгубленымі, спустошанымі, запалоханымі мужчынамі, жанчынамі і дзецьмі, рана ці позна ўсякі чарадзей адкажа перад Страшным у гневе Богам.

*Куплін*

**Так і не разумею: «Белая Русь» — гэта партыя ўлады або гарэлка?**



# Віктар Маркавец згарэў за месяц

Мастак адышоў 16 верасня. Сябры лічаць, што ягоная анкалогія была выклікана атручваннем феноламі. Удзельнік падпольных незалежніцкіх групаў у савецкі час, ён выкладаў у Акадэміі і стварыў геніяльнае палатно «Свята ў Докшыцах».

Віктар Маркавец быў вучнем славутага Ахрэмчыка, сябрам Саюза мастакоў ад 1977, выкладчыкам Акадэміі мастацтваў. З яго курсаў выйшлі вядомыя сёння мастакі і пісьменнікі. Разам з Марачкіным, Караткевічам, Чарняўскім ён браў удзел у дысідэнцкай групе беларускай інтэлігенцыі «На Паддашку». Ягоная майстэрня ў Ракаўскім прадмесці была мазгавым цэнтрам руху за незалежнасць у 1980-я. У часы незалежнасці ён быў удзельнікам суполкі мастакоў «Пагоня». Нават ягонае лецішча у Вайшкунах на возеры Балдук было цэнтрам прыцягнення для творцаў.

У Віктара Маркаўца была анкалогія. 66-гадовы мастак згас за месяц ад вострай лейкеміі. Сябры мяркуюць, што лейкемію выклікала прафесійная хвароба.

«Мне дактары сказалі, што гэта хвароба, якая часта сустракаецца ў мастакоў і маляроў, — кажа сябар мастака Алесь Пушкін. — Віктар Пятровіч рэстаўраваў царкву ў Докшыцах і атруціўся фарбамі, дакладней, феноламі. Я быў у ягонай палаце яшчэ ўчора, трымаў яго за руку.

Віктар Маркавец — той чалавек, які сціпла, па-за медыйнай прасторай, рабіў сапраўдную беларускую справу. Мы пазнаёміліся ў 1983 годзе, тады Маркавец і Алесь Марачкін для нас, дзесяцікласнікаў, сталі сапраўднымі аўтарытэтамі. Менавіта тады я ўбачыў ягоныя маляваныя дываны... Апошняя ягоная выстава была на 20-годдзі суполкі «Пагоня», ён выставіў велізарны краявід, надзвычай прыгожы. Я вельмі ўзрадаваўся, што Віктар Пятровіч ізноў пачаў пісаць.

Апошнія гады ён займаўся аздабленнем дзвярэй, шафаў, ладзіў выставы ў фальварку «Добрыя мыслі». Спадар Маркавец разам з жонкай стварылі ў «Добрых мыслях» сапраўдную сямейную атмасферу, выстава там у 2011 годзе стала найлепшай маёй выставай за апошнія гады.

Я лічу, што галоўнае цяпер — працягнуць ягоныя няскончаныя праекты: маляваць беларускую Вільню, напрыклад. Каб фарба на палітры Віктара Маркаўца ніколі не засохла».

Яго карціны — дыптых «Свята ў Докшыцах» і «Купалле», «Вечар на вуліцы Замкавай у Мінску», — поўныя яскравасці і цеплыні, былі промнем святла і мяккай беларускасці ў беспрасвецці брэжнеўскага застою. «Ён стварыў сапраўды геніяльную карціну «Свята ў Докшыцах», — кажа вучань мастака Адам Глобус. — За савецкім часам мастакі малявалі свята на заводзе ці ваенны парад. Гэта ўсё было, але ўласна свята ў гэтых карцінах не было. А Віктар Маркавец паказаў, што звычайнае свята ў мястэчку можа мець велізарную колькасць святла, быць сапраўдным святам. Проста танец у мястэчку. Шкада, што спадара Віктара болей з намі няма».



**«Свята ў Докшыцах» (1976). Мастак намаляваў сябе з сёстрамі Валянцінай і Галінай на фоне роднага горада.**

«Асоба Віктара Маркаўца — з ліку легендаў беларускага Адраджэння, — расказвае мастак Рыгор Сітніца. — Калісьці разам з Алесем Марачкіным яны на матацыклах аб'ехалі ўсе тыя сцежкі, якімі хадзіў Язэп Драздовіч, літаральна вярнуўшы гэтага творцу ў гісторыю мастацтва.

Цяпер і Марачкін, і Маркавец сталі сапраўднымі класікамі. Віктар Маркавец быў вельмі сціплай, але яркай і харызматычнай асобай. Ён спраектаваў і распісаў царкву ў Заслаўі, ён стварыў два праекты з Алесем Разанавым, у тым ліку знакамітыя «Яйкаквадраты» — не памятаю, каб калісьці раней мастак і паэт у Беларусі мелі супольны праект.



Светлы чалавек і вялікі мастак Віктар Маркавец яшчэ ў інстытуце ўлучыўся ў Беларускае Адраджэнне. Ён быў франтаўцам, як і іншыя мастакі, ад самага пачатку існавання БНФ. У 1989–1990 гадах, у самы пік барацьбы Фронту з камунізмам і за праўду аб Чарнобылі, бальшыня пасяджэнняў Сойму Народнага Фронту адбывалася ў творчай майстэрні Віктара Маркаўца ў старым горадзе на вуліцы Дзімітрава. Гэта факт, які ўвайшоў у гісторыю, і роля тут вялікага мастака — адметная.

**Зянон Пазняк**

Ён стварыў згуртаванне «Мастак» у Заслаўі, праводзіў пленэры, напрыклад — па маляваных дыванах. Гэта рэдкае, вельмі прыгожае мастацтва, і ніхто не рабіў па ім пленэраў да Маркаўца. Віктар быў сапраўдным руплiўцам беларускай справы».

Віктара Маркаўца пахавалі 20 верасня ў родных Докшыцах, побач з бацькамі.

**Юрась Ускоў**

### Спачуванні

Svietly supakoj jaho dušy. Ščyryje spačuvanni rodnym i blizkim. U vačach stajic naša apošniaja sustreča. Krasavik hetaha hoda, Zaslauje. Ahlad pracau, niaspiešnaja havorka za harbataj, plany na budučyniu...

**Ladvika Kardzis, Vilnia**

Сумленны мастак і чалавек. Светлая памяць.

**Міхаіл**

Выдатны мастак, сапраўдны мужчына, руплівец Беларушчыны. Спачуванні Тацяне Гаранскай, усім родным і блізкім!

**Уладзімір Сіўчыкаў**

Зямля пухам светламу чалавеку, выдатнаму мастаку, шчыраму беларусу. Спачуванні Тацяне Гаранскай!

**Аліна і Мікола Ваўранюкі, Беласток**

Яшчэ аднаго добрага знаёмца не стала... Вечная памяць.

**Анатоль Сідарэвіч**

Смуткуем і плачам. Молімся. Божа, барані Беларусь і нашых адраджэнцаў... Шчырыя спачуванні Таццяне Гаранскай і дачцэ Таццяне Маркавец, сёстрам, усім бліжнім і родным, сябрам-аднадумцам...

**Свята і Вінцэсь**

Шчырыя спачуванні Таццяне Гаранскай і ўсяму беларускаму мастацтву. Трымайцеся, Таня.Памятаю нашу сустрэчу.

**Таіса Мішчанка, Масква**

Прыкрая навіна. Спачуванні сям'і ад сяброў з ЗША.

**Serge**

Светлая память и благодарность от докшичан.

**Вольга**

# Віктар Маркавец. **Матацыклетныя вандроўкі з Марачкіным**

Перачытваю старонкі сваіх запісаў, што рабіў у часе нашых супольных падарожжаў па Беларусі. Вось асобныя з іх — з лета 1979 года:

«Марачкіну не цярпелася хутчэй набыць матацыклет. І вось, нарэшце, яго прывезлі на двор майстэрні на вул.Дзімітрава — упакаванага, абабітага рэйкамі. Гаварылі, што стаяў доўга пад небам, і гэта было бачна па налёце пылу і дзе-нідзе — іржаўчыне. Разбіралі, чысцілі, але так і не завялі — іскры не было. Цягнулі наверх у майстэрню. Прыйшлося дамаўляцца на заводзе пра гарантыйны рамонт. Я сваю тэхнічную праблему вырашыў праз мастака Генрыха Ціхановіча, які прадаў мне старую «Яву».

«Гамонку пра гэтую вандроўку вялі па ўсім Менску. Ведалі, што мы збіраемся, спрачаліся — ці добра, што на матацыклетах, ці патрэбны намёт ды іншыя дробязі... Мабыць, самі мы так не хваляваліся, як клапаціліся пра нашу паездку знаёмыя ды сябры. У Саюзе мастакоў і ў Саюзе пісьменнікаў вяліся спрэчкі вакол гэтай задумы. Саміх нас болей хвалявала, як будзе паводзіць сябе тэхніка, як прыстасуемся да яе і да дарогі, як будзем знаходзіць кантакты з вясковымі людзьмі.

Напярэдадні паездкі начавалі ў майстэрні. Разлічвалі аншчаджаць дзённы час ды як раней выехаць з гораду, пакуль найменшы рух. Доўгая падрыхтоўка засталася ззаду. Раніцай 19 ліпеня пачалася дарога».

«Даехалі да паромнай пераправы на Прыпяці. Было ўжо даволі позна. Насоўвалася чарговая навальніца, і трэба было найхутчэй шукаць месца для стаянкі. Але, як на дзіва, берагі былі пустыя, і толькі рэдкія кусты раслі на пяску. Не губляючы часу, памкнуліся да першай больш-менш прыдатнай мясціны і хуценька пачалі ставіць намёт. Але хмара апярэдзіла нас, і завяршалі мы сваю працу пад злівай. ...Раніца адарыла нас цудоўным надвор'ем — сонцам і лёгкім ветрыкам».

«Сілы былі затрачаныя вялікія, але ўсё ж так-сяк патрапілі да вёскі, якая завецца Ладараж. Гэта самая што ні ёсць глыбінная вёска, куды «цывілізацыя» яшчэ не дайшла. Здзіўляе ўсё — самі забудовы з магутнымі дахамі з асакі, планіроўка забудовы, буйная расліннасць. А галоўнае — шчырасць, адкрытасць людзей, якія адразу збіраюцца, убачыўшы новых людзей на вуліцы, з цікавасцю і вялікай прыязнасцю размаўляюць, гатовыя паказаць і падзяліцца ўсім, што маюць».

«Шлях ляжаў у Багданава — да мясцінаў Рушчыца. Гаспадар, у якога мы спыніліся, аказаўся цікавым чалавекам. Пры Польшчы ён меў уласны хутар, што стаяў за маёнткам Рушчыца, дзе цяпер засталася адзінокая груша. Дзядзька добра ведаў «паноў», пра якіх прыгожа апавядаў па-беларуску...

...Адпачылі на сене, а самай раніцай пачалі збірацца ў Вішнева, бо чулі пра ксяндза Чарняўскага, пра ягоныя беларускія казані. Хацелася ўсё гэта пабачыць, бо якраз павінна была адбыцца служба».

Працяг вандроўкі, пасля невялікага перапынку, адбываўся на Віцебшчыне, па мясцінах Язэпа Драздовіча. «...У пошуках вёскі Лясцыны патрапілі ў невялічкую вёсачку Азету, дзе ўсё захавалася спрадвеку — і саламяныя стрэхі, і спосаб працы, — бо і саху тут знайшлі, і драўляную барану.

Маладая яшчэ на выгляд кабета ткала цудоўныя па тэхніцы выканання кілімы (тут іх, дарэчы, так называюць) — сапраўдныя габелены. Стаяў шырокі станок, шырэйшы чым паўтара метры: на ім распачатая праца. Майстрыца, бачыцам ведаючы сабе кошт, трымалася з гонарам. Тут жа з'явіўся гаспадар — сухаваты, падцягнуты дзед. Раней быў у іх дыван Драздовіча. Але калі наткала сваіх, а той састарэў, яго знішчылі. Жанчына павяла нас да суседкі, і тая выцягнула два кавалкі (валяліся дзесьці на печы) цудоўнага дывана Драздовіча з арыгінальнымі малюнкамі — млын, вогнішча, коні, месяц».

«Вечарэла, калі прыехалі ў Ікадзь. Велічны касцёл і царква надалі прыгожы выгляд мястэчку. Але гэта здаля... Зблізу іншае ўражанне — нейкая неарганізаванасць цяперашняга жыцця: смецце і тлум, запушчанасць ва ўсім. Зблізу касцёл падаўся яшчэ больш велічным, і на гэтым фоне яшчэ больш «рэзалі вока» яго пашкоджанні ды недагледжанасць. Абышлі храм навокал. За мурамі, на зялёнай траве, бы насмешка над намі, ляжыць маляваны дыван з кветкамі на чорным фоне. Ляжаў ён тут даўно, бо трава пад ім ужо зжаўцела. Лёс бы спецыяльна падкінуў нам гэтага прыгажуна, бы ўхваляючы наш занятак і росшукі. Убачылася нам у гэтай прыгодзе штосьці знакавае».

З тых даўніх часоў засталіся прыемныя ўспаміны. Для нас абодвух тыя вандроўкі далі штосьці сутнаснае, неад'емнае, незабыўнае.

**Упершыню надрукавана ў «НН» № 13 за 2000**

# Першая і апошняя ахвяры Паўстання

**Лёсы каліноўцаў** Міхала Цюндзявіцкага і Тэлесфора Халевы.

Люты 1863. У Барысаўскім павеце ідуць арышты іператрусы. Хапаюць падазраваных ва ўдзеле ў паўстанні. Арышту дзівам мінае Аляксандр Цюндзявіцкі, імя брата якога — Міхала — стаіць першым у спісе паўстанцаў Беларусі, пакараных смерцю. Адправіць атрад у маёнтак Аляксандра за 70 вёрст ад Лагойска адмовіўся расійскі палкоўнік Насохін. На гэта 4 сакавіка мінскаму губернатару скардзіўся станавы прыстаў Адам Ляцкі.

Гэта быў той Ляцкі, які спланаваў і кантраляваў арышты ў сваім родным Барысаўскім павеце. Ён адправіў за краты не адзін дзясятак паўстанцаў ды тых, хто ім спачуваў. Нават смерць Ляцкага каштавала жыцця двум паўстанцам — Эдварду Харэвічу і Тэлесфору Халеве.

### «Мы іх шапкамі закідаем. Вастрыце косы»

Расстрэлам у Мінску 2 чэрвеня 1863 пачалася ў Беларусі акцыя па запалохванні насельніцтва. Пакараны смерцю быў 23-гадовы Міхал Яхім Цюндзявіцкі. Ён паходзіў з заможнай сям'і, якая мела ў Барысаўскім павеце 3200 га зямлі. Сямёра дзяцей Цюндзявіцкіх выхоўваліся ў любові да роднага краю і здолелі перадаць яе сваім нашчадкам. Нездарма, у 1906 годзе адзін з прадстаўнікоў роду — Віктар — выдаў кніжку «Аб чым сёння гамоняць у нас на Беларусі», напісаную беларускай мовай (наклад якой сканфіскавалі).

Бацька Міхала Мельхіёр Антоні ў вайну 1812 года служыў у расійскім войску і за мужнасць атрымаў залатую шаблю. У адстаўцы ён заняў пасаду маршалка Барысаўскага павета. Маці Міхала — Каміла — паходзіла з роду Багдановічаў.

Як і бацька, Міхал выбраў жыццё вайскоўца. Пасля кадэцкага корпуса ў званні харунжага паступіў на службу. У войску Міхал увайшоў у рэвалюцыйную арганізацыю, па заданні якой пры канцы 1862 узяў адпачынак і накіраваўся ў вандроўку па вёсках Мінскай і Віленскай губерняў — заклікаць сялян да паўстання. Пераапрануты ў кажух, аб'ехаў шмат мясцін. 18 лютага 1863 ён наведаўся ў карчму каля вёскі Камень, дзе сабралася дужа народу: былі хрэсьбіны.

Міхал пачаставаў людзей гарэлкаю, слова за слова — гаворка перайшла да тэмы ўзброенага выступлення. Цюндзявіцкі дастаў з кішэні брашуру на беларускай мове (хутчэй за ўсё «Мужыцкую праўду») і стаў яе гучна чытаць. Адзін з сялянаў выказаў сумнеў: маўляў, цар і так аддасць зямлю, навошта паўстанне. Міхал адказаў: «Хопіць таму цару валодаць нашай зямелькай. Трэба за яе грудзьмі стаць. Цяпер і нам, і вам дрэнна, панабудавалі канцылярый, вам плата вялікая. Трэба пра сябе падумаць, і памятайце, каб вы гатовы былі ваяваць... Што для нас значыць у Барысаве адна рота салдат? Мы іх шапкамі закідаем... Косы трэба рыхтаваць, завастрыўшы на абодва бакі».

Словы пачуў соцкі. Цюндзявіцкага арыштавалі і даставілі ў мінскую турму. Некалькі сялянаў пацвердзілі, што Міхал агітаваў іх. А падчас вобшуку знайшлі фота, на якім Цюндзявіцкі быў зняты ў крэсле з выявамі Пагоні і арла — сімвалаў барацьбы «за нашу і вашу вольнасць».



**Міхал Цюндзявіцкі — паўстанец, пакараны смерцю за чытанне «Мужыцкай праўды». Гэтае фота стала дадатковым доказам у яго справе.**

**Ці будзе мемарыяльная шыльда па Цюндзявіцкім?**

Паўстанец Міхал Цюндзявіцкі, памяць якога так шанавалі сучаснікі, варты згадкі і ў незалежнай Беларусі. Ён загінуў за чытанне «Мужыцкай праўды», смела пайшоў на смерць за ідэю вызвалення свайго народа ад улады захопнікаў. Лагічным было б адкрыццё мемарыяльнай дошкі яму на месцы пакарання — на адным з будынкаў сённяшняга праспекта Незалежнасці.

### Мураўёў асудзіў на смерць

Падставаў для страты не было: Міхал не быў кіраўніком атрада, не ўдзельнічаў у сутычках. Аднак генерал-губернатар Мураўёў, які толькі прыбыў у Вільню, падпісаў сваю першую смяротную рэзалюцыю. Ён загадаў арыштаваць нават мінскага фатографа Прушынскага, у майстэрні якога быў зроблены здымак Цюндзявіцкага. Прушынскага адправілі ў Сібір.

Цюндзявіцкага ж у прысутнасці натоўпу мінчукоў паставілі да слупа недалёка ад скрыжавання вуліц Серпухоўскай (сёння Валадарскага) і Захар'еўскай (праспект Незалежнасці), дзе сёння знаходзіцца паштамт. Калі агучылі прысуд, Міхал папрасіў, каб карнікі не завязвалі яму вачэй. За хвіліну да залпу ля ног Цюндзявіцкага ўпаў букет кветак, кінуты дзяўчынай з вёскі Палонная... Але загучалі барабаны, заглушыўшы апошнія словы Міхала, і пах згарэлага пораху напоўніў паветра.

Яго пахавалі на месцы пакарання. Мемуарыст Эдвард Паўловіч адзначаў: «да магілы ішоў незлічоны натоўп усіх сасловяў, веравызнанняў і нацыянальнасцей». Людзі былі «збратаныя, але і перапісаныя шпіёнамі». Каб пазбегнуць перапатварэння магілы ў мемарыял, цела перазахавалі ў невядомым месцы.

Недалёка ад месца страты брат Міхала Аляксандр Цюндзявіцкі ў 1870 пабудуе дом...

### Катастрофа ля Уладыкаў

Апошні забіты ў Беларусі паўстанец Тэлесфор Халева нарадзіўся ў 1841-м у сям'і небагатага шляхціча Юзафа Халевы з ваколіцы Халеўшчына Мінскага павета.

З пачаткам паўстання ён паступіў у атрад Чыжыка, які складаўся з 78 жыхароў Барысаўскага павета. Хутка барысаўцы злучыліся з атрадам Сухоцкага ў складзе 40 чалавек. Агульнае камандаванне ўзяў на сябе ваенны начальнік Вілейскага павета, 25-гадовы Вінцэнт Козел-Паклеўскі.

Атрад зрабіўся значнай ваеннай сілай, якая пагражала Мінску з поўначы. Супраць яго былі накіраваныя пяць рот салдат, на чале з палкоўнікам Галам.

28 мая паўстанцаў загналі ў пастку ля ракі Іллі, паблізу вёскі Уладыкі Вілейскага павета. Камандзір загадаў рабіць плыты і пераправіцца праз Іллю. Але расейцы ўжо чакалі на тым баку... Бой доўжыўся дзве гадзіны. Расейцы страцілі 7 чалавек забітымі, 36 параненымі, нават палкоўнік Гал быў кантужаны ў галаву і шыю.

Паўстанцы ж пацярпелі паразу. 25 чалавек трапілі ў палон, 53 зніклі, 58 загінулі на полі бою. Козел-Паклеўскі змагаўся да апошняга і быў забіты стрэлам у галаву...

Уратавацца ўдалося тым, хто быў на апошніх плытах і павярнуў назад, як пачалася страляніна. Гэтыя 54 чалавекі склалі новы атрад на чале з Чыжыкам. Ён дзейнічаў да позняй восені 1863, пакуль не быў распушчаны. Халева атрымаў ад камандзіра 100 рублёў і фальшывы пашпарт.

### Гора-рабаўнік

Тэлесфор папаўся ў скла-дзе ўзброенай групы ў ліпені 1864. Падчас следства Халеву запыталі:

— Чаму да гэтага часу не з'явіўся перад уладамі?

— Камандзір атрада, адпускаючы нас, загадаў перачакаць з гэтым дакументам зіму, а налета сабрацца зноў.

Тэлесфор чакаў новай хвалі паўстання, перабіваўся як мог, нават спрабаваў адбіраць на дарозе грошы... Даследчык Вацлаў Студніцкі адзначаў: «Абвінавачаны прызнаўся, што аднойчы запатрабаваў грошай ад аднаго грамадзяніна, але калі той даваў яму 60 капеек, дык не ўзяў. І яшчэ раз запатрабаваў ад двух мінакоўяўрэяў грошай ці ежы, але, калі яны патлумачылі, што ў шабас нічога пры сабе не маюць, адпусціў іх».

### Забойства калабаранта

Акрамя рабункаў, Тэлесфору інкрымінавалі забойства прыстава Адама Ляцкага. Адзін з сяброў Халевы, шляхціц Эдвард Харэвіч, быў ужо прызнаны вінаватым у забойстве Ляцкага і расстраляны 7 снежня 1864. Тэлесфор жа адмаўляў свой саўдзел.



**Вінцэнт Козел-Паклеўскі — начальнік Вілейскага павета, пад загадам якога ваяваў Тэлесфор Халева. Гераічна загінуў пад Уладыкамі.**

Забойства Ляцкага адбылося яшчэ 1 кастрычніка 1863 года побач з вёскай Бараўляны, калі службовец вяртаўся з Лагойска ў родны фальварак Мядухава. Сведкаў учынку не было, але 80-гадовы бацька Адама адзначаў, што «забойства здзейсненае не выпадковымі шайкамі, а ворагамі нашай ахвяры» і называў тых, каго падазраваў: Жаброўскія, Папроцкія, Федаровічы, Асецімскія, Андрушкевічы... У спіс можна было б унесці ўсю шляхту Барысаўскага павета.

Ляцкі займеў столькі ворагаў, бо прыняў пасаду справаводцы ў палітычнай камісіі, на якую ніхто не згаджаўся. Ён пераследаваў паўстанцаў, яго даносчыкі паведамлялі яму аб любога кшталту праявах незадаволенасці ў павеце. Так, праз месяц пасля арышту Міхала Цюндзявіцкага ў мястэчку Камень адзін з яго жыхароў — 19-гадовы габрэй Лейба Зіскін — данёс Ляцкаму на шляхціца Канстанціна Яноўскага з маёнтка Смалявічы. Зіскін расказаў, што Яноўскі чытаў перад ім і сельскім старастам Віктарам сачыненне, «печатанное на простонародном языке под заглавием «Ясь с под Вильна».

Забойства Ляцкага ўстрывожыла ўладу. На павятовую шляхту была накладзеная кантрыбуцыя ў памеры ад 15 да 25 рублёў з двара, складалі спіс шляхты, якая жыла паблізу месца злачынства для прыняцця рашэння аб высяленні.

Але доказаў, якія пацвярджалі датычнасць Харэвіча і тым больш Халевы да забойства, не было. Расейскія ўлады займаліся пошукам злачынцаў не столькі сапраўдных, колькі «патрэбных». Для іх быў важны сімвалічны момант: жаданне забіць апошні цвік у труну паўстання. І актыўны інсургент Халева надаваўся на ролю ахвяры.

Тэлесфор Халева быў павешаны на месцы забойства расейскага службоўца. Прысуд быў прыведзены ў выкананне ў ваколіцах Бараўлян 8 красавіка 1865.

**Васіль Герасімчык**



**Васіль Герасімчык**

Гісторык. Нар. 1987. Скончыў Гродзенскі ўніверсітэт, магістратуру Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і Торунскага ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка. Пераможца конкурсу «Найлепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага».

## ІМПРЭЗЫ

### Фестываль Юрыя Башмета

**2 кастрычніка** а 19-й у Беларускай дзяржаўнай філармоніі адкрыецца VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Пад гукі Камернага ансамбля «Салісты Масквы» пад упраўленнем Юрыя Башмета народны артыст Расіі Канстанцін Хабенскі будзе чытаць вершы Маякоўскага.

**4 кастрычніка** а 19-й тамсама — «Credo» Кшыштафа Пендэрэцкага.

**5 кастрычніка** а 18.30 на плошчы каля гарадской ратушы — канцэрт ансамбля старажытнай музыкі «Хортус Музікус»(Эстонія).

**6 кастрычніка** а 19-й у Беларускай дзяржаўнай філармоніі — праграма «Салісты і дырыжоры свету».

**7 кастрычніка** а 19-й тамсама — сольны канцэрт піяніста Мікалая Луганскага (Расія).

**8 кастрычніка** а 19-й — канцэрт лаўрэатаў Міжнароднага конкурсу імя П.І.Чайкоўскага.

**11 кастрычніка** а 19-й — канцэрт, прысвечаны 25-годдзю аркестра пад упраўленнем Уладзіміра Перліна.

**12 кастрычніка** а 19-й — урачыстае закрыццё фестывалю. Сольны канцэрт Максіма Венгерава на скрыпцы Страдзівары.

### ЖывыГукOn-line

**6 кастрычніка а 19-й у «Юле» (Сурганава, 26)** — фэст «ЖывыГукOn-line». Пераважная частка ўдзельнікаў — маладыя амбіцыёзныя каманды, якія ўжо добра граюць і гучаць, але пакуль яшчэ не маюць магчымасці самім сабраць публіку.

### Талькаўскі фэст

**5 кастрычніка** у Тальцы (Пухавіцкі раён) пачнецца Талькаўскі фэст, прысвечаны гадавіне паўстання 1863. Арганізатары запрашаюць аматараў народных і бардаўскіх песень, танцаў і гульняў. Збор а 12-й каля клуба.

### «Хіган»

**28 і 29 верасня** ў к/з «Мінск» пройдзе Восьмы штогадовы фестываль сучаснай маладзёжнай усходнеазіяцкай культуры «Хіган», які аб'ядноўвае аматараў анімацыі, коміксаў, камп'ютарных гульняў, вулічнай моды і музыкі Азіі.

## КАНЦЭРТЫ

### Беларусы

**26 верасня а 19-й у к/з «Мінск»** — выступае арт-група «Беларусы»

### Billy's Band

**27 верасня а 19-й у клубе «Цэнтр» (пл.Кастрычніцкая, 1)** — выступае санкт-пецярбургскі гурт Billy's Band (джаз/блюз).

### The UNB

**27 верасня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — гурт The UNB.

### Nologo

**28 верасня а 18-й у клубе «Зебра» (парк Фрунзе, 1, Віцебск)** — адкрыццё 8-га альтэрнатыўнага сезона Nologo. Возьмуць удзел «СныОпоСсума», I Dance Alone (Віцебск), «Мутнаевока», :B:N: .

### Рой Янг

**1 кастрычніка а 19-й і 2 кастрычніка а 22-й у клубе «Цэнтр» (Кастрычніцкая пл., 1)** — канцэрт Роя Янга (блюз/соўл).

### Песні пра каханне

**1 кастрычніка а 19-й Палацы спорту** — канцэрт Андрэя Макарэвіча, трыа Яўгенія Барца, A'capella expresss і Канстанціна Гевандзяна «Песні пра каханне».

### Paparać

**2 кастрычніка а 19-й у клубе «Юла» (Сурганава, 26)** — Піт Паўлаў і капэла Paparać. Капэла Paparać — новы, сучасны падыход да этнічнай беларускай музыкі. Адмыслова для праекта былі выраблены «музычныя» керамічныя глякі, а сярод цікавых інструментаў — шархуны (традыцыйныя беларускія званочкі, якія чапляліся на каня).

## ВЫСТАВЫ

### Праваслаўны свет. Вобраз Хрыста ў іканаграфіі краін Усходняй Еўропы

**Да 5 снежня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Праваслаўны свет. Вобраз Хрыста ў іканаграфіі краін Усходняй Еўропы», прымеркаваная да 1025-годдзя Хрышчэння Русі. У экспазіцыі прадстаўлены 100 твораў канца XIV – пачатку XIX стагоддзя са збораў 9 музеяў Расіі, Украіны, Сербіі і Беларусі.

### Крок у змрок

**Да 4 кастрычніка ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава Уладзіміра Лапо «Крок у змрок». Праект прэзентуе творы графікі розных гадоў і скульптуры, выкананай ў тэхналогіі direct cast — прамога ліцця.

### Паўстанне 1863-1864

**Да 6 кастрычніка ў гістарычным музеі** працуе выстава, прысвечаная 150-годдзю паўстання 1863-1864. Экспазіцыя складаецца з дзвюх частак. На першай прэзентуюцца рукапісныя і друкаваныя дакументы, а таксама іканаграфічныя матэрыялы і фотаздымкі з польскіх архіваў, а другі раздзел складаецца з матэрыялаў, падрыхтаваных Нацыянальным гістарычным музеем Беларусі.

### Падарожжа ў часе

**Да 26 кастрычніка ў Нясвіжскім палацы** працуе выстава «Падарожжа ў часе», на якой можна пазнаёміцца з калекцыямі камінных, насценных, настольных, кішэнных і наручных гадзіннікаў XVII-XX стст.

### Зямля Паднябесная

**Да 20 кастрычніка ў «Доме-музеі I з'езда РСДРП»** працуе выстава «Зямля Паднябесная», на якой паказаныя кітайская традыцыйная вопратка і прадметы побыту.

### Гаспарэ Манас: Партрэты буйным планам

**Да 28 верасня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва** працуе выстава «Гаспарэ Манас: Партрэты буйным планам». Гаспарэ Манас — італьянскі жывапісец, графік і скульптар, чыя творчасць знаходзіцца на мяжы абстракцыі і фігуратыўнага мастацтва.

### Васіль Пяшкун

**Да 8 кастрычніка ў сталічнай галерэі «Мастацтва» (пр. Незалежнасці, 12)** працуе выстава мастака Васіля Пешкуна.

### З Вілейкі з любоўю

**Да 19 кастрычніка ў мастацкай галерэі твораў Л.Шчамялёва (пр. Ракасоўскага, 49)** працуе выстава твораў беларускіх народных майстроў з фондаў Вілейскага краязнаўчага музея. Упершыню ў Мінску будуць паказаныя распісныя дываны, малюнкі на шкле, распісныя макаткі і іншыя атрыбуты побыту Вілейшчыны першай паловы XX стагоддзя.

TEART

28 вер.— 21 каст.

міжнародны ФОРУМ тэатральнага мастацтва «ТЭАТР»

МІНСК 2013

**З 28 верасня да 21 кастрычніка** ў Мінску «Белгазпрамбанк» арганізуе Міжнародны форум тэатральнага мастацтва TEART, падчас якога будуць паказаныя больш за 20 спектакляў беларускіх і замежных аўтараў.
Беларускі блок спектакляў складаецца з пяці наватарскіх прэм'ер: «PATRIS», «Кароткачасовая», «Самотны хакеіст», «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» і «Рамонт».

## ТЭАТРЫ

### 25 верасня

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?..»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»

### 26 верасня

**Оперы і балета** — «Папялушка»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 27 верасня

**Лялек** — «Чайка. Досвед прачытання»
**Оперы і балета** — «Іяланта»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 28 верасня

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

### 29 верасня

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»
**Оперы і балета** — «Церам-церамок»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Купалаўскі** — «Офіс»

### 30 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат»

### 1 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 2 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 3 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 4 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 5 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»

### 6 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»

## КІНО

### Сямейка Блэйк

Малавіта
Крымінальная драма, баявік, камедыя
**Рэжысёр:** Люк Бесон
**У ролях:** Роберт дэ Ніра, Мішэль Пфайфер, Дыяна Аргон, Джон д'Леа, Томі Лі Джонс
ЗША, Францыя, 116 хв.

Містар Блэйк разам з жонкай Мэгі і дзецьмі Бэль і Уоранам пераязджаюць у невялікі нармандскі гарадок. Дзеці ідуць у новую школу, жонка наведвае крамы, а сам Блэйк пачынае пісаць мемуары. У той жа дзень у гарадку згарае супермаркет, трое школьнікаў аказваюцца збітымі. Сямейка былога мафіёзі Джавані Манзоні, што цяпер хаваецца ад сваіх жа саўдзельнікаў і знаходзіцца пад абаронай ФБР, можа з лёгкасцю пастаяць за сябе ў любой сітуацыі. Гісторыя, знятая Бесонам па аднайменнай кнізе Таніна Бенаквіста, набыла новае дыханне дзякуючы шыкоўнаму складу акцёраў. Абаяльным дэ Ніра і Пфайфер у ролях італьянскіх мафіёзі ў гадах, якія спрабуюць жыць звычайным жыццём, не саступаюць маладыя Аргон і д'Леа ў ролях іх дзяцей, вынаходлівых, звыклых да пераменаў месца. Стужка, прасякнутая тонкім гумарам з элементамі трэша, глядзіцца на адным дыханні. Фірмовы рэжысерскі стыль раскрывае кожнага героя як асобу, але не пазбаўляе фільм ні заборыстага экшана, ні іроніі.

**Настасся Уласава**



# Гуртам лягчэй і бацьку біць

Заходняя мода — **скідвацца грамадой на цікавыя праекты** — прыйшла і ў Беларусь.

У інтэрнэце з'явіўся праект Talaka.by — платформа, на якой кожны ахвотны можа прэзентаваць свой распланаваны праект і звярнуцца па дапамогу да інтэрнаўтаў. Тыя, хто ўпадабаў ідэю, могуць паўдзельнічаць у ім асабіста ці фінансава.

На Захадзе такія платформы існуюць даўно. Напрыклад, славуты амерыканскі сайт kickstarter.com грамадой збірае на праекты мільёны даляраў!

Пра перспектывы «народных» праектаў у Беларусі «Наша Ніва» гутарыць з заснавальнікам «Талакі» Яўгенам Клішэвічам.

**«Наша Ніва»: Раскажыце, як з'явілася ідэя стварыць такую платформу ў Беларусі?**

**Яўген Клішэвіч:** Пачалося ўсё з мяне. Я заўжды быў грамадска актыўным, удзельнічаў ва ўсялякіх праектах — пераклады фільмаў на беларускую мову, аматарскія тэатры... І сутыкаўся з тым, што ўсе гэтыя праекты маюць падобныя праблемы з рэалізацыяй: нястача чалавечых альбо фінансавых рэсурсаў. Узнікла думка, што, стварыўшы такую платформу, можна павялічыць колькасць рэалізаваных праектаў. Паступова ідэя выкрышталізавалася ў «Талаку».

**«НН»: За аснову вы ўзялі Kickstarter?**

**ЯК:** Не зусім. «Кікстартар» — гэта платформа, якая збірае грошы, то бок там з'яўляецца ўжо гатовая каманда, якая прапануе карыстальнікам прадукт. Маўляў, вы даяце грошы, а мы для вас зробім тое ці тое. Мы ў гэтым плане шырэйшыя, бо праз «Талаку» каманду можна сфарміраваць — да праектаў далучаюцца зацікаўленыя людзі.

**«НН»: Якія праекты атрымалася паспяхова рэалізаваць?**

**ЯК:** Ёсць тры паспяхова створаныя праекты. Першы — арганізацыя экскурсій для людзей са слабым зрокам, які ўключае ў сябе стварэнне 3D-мадэляў будынкаў, каб людзі маглі навобмацак зразумець, як той ці іншы будынак выглядае. Наступны — «Брашура раварыста», дапаможнік для пачаткоўцаў. У ім сабрана ўсё, што трэба ведаць чалавеку, які вырашыў сесці на ровар. Трэці праект — арганізацыя рамесніцкага летніка, мэта якога захаваць і развіваць старадаўнія рамёствы.

**«НН»: На сайтах такога кшталту, калі гаворка ідзе пра грошы, указваюцца патрэбныя сумы і колькасць ужо ўнесеных сродкаў…**

**ЯК:** Мы плануем запусціць модуль з сумамі праз пару месяцаў, цяпер вырашаюцца юрыдычныя і прававыя пытанні, ідуць перамовы з банкам і распрацоўваецца модуль, каб такая паслуга была зручнай для ўсіх карыстальнікаў.

**«НН»: На Захадзе такія платформы карыстаюцца попытам, у Расіі і Украіне сайты-аналагі менш паспяховыя. Якой бачыце будучыню «Талакі»?**

**ЯК:** У Беларусі ёсць сярэдні клас, актыўны і неабыякавы, які можа падтрымліваць розныя праекты. За ім падцягнуцца і астатнія.

**«НН»: Якія праекты размешчаныя на сайце цяпер?**

**ЯК:** Напрыклад, рэстаўрацыя абсерваторыі. У Беларусі адна ўстанова такога кшталту, і тая не працуе, бо не зроблены рамонт. Кошт рамонту мізэрны па дзяржаўных мерках — 50 мільёнаў рублёў. Ужо знайшоўся першы спонсар, які выдаткаваў восем мільёнаў на першы этап рамонту. Таксама ёсць праект па арганізацыі пякарні, якая будзе пячы хлеб па старажытных рэцэптах — такое сабе адраджэнне традыцый. Зараз заснавальнікі праекта дэманструюць, чым можна накарміць увесь Мінск на розных фэстах.

**НН: А асабіста вы калі-небудзь падтрымлівалі праекты на замежных платформах?**

**ЯК:** Літаральна нядаўна падтрымаў адзін з праектаў на «Кікстартары» — стварэнне карбонавага чахольчыка для тэлефона, аднак праект чамусьці адмянілі. Досвед ёсць, вось мы і хочам, каб ён быў даступны не толькі амерыканцам і еўрапейцам, а таксама і беларусам.

**Юрась Ускоў**




За 2012 год на сайце Kickstarter.com было ахвяравана $320 мільёнаў. Паспяхова было завершана 18 109 праектаў. 17 з іх сабралі больш за мільён даляраў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Топ-3 праекты на kickstarter.com**

1. Стварэнне гадзінніка Pebble для айфонаў і андроідаў — $10,3 мільёна




2. Стварэнне кансолі для гульняў OUYA — $8,6 мільёна




3. Стварэнне гульні Project Eternity — $4 мільёны




**Топ-3 праекты на сайце Talaka.by**

1. Зборнік «Дапаможнік раварыста»




2. Экскурсія для невідушчых «Дотык да Мінска»



3. Летнік «Азярычына 2013»



## Прыватныя абвесткі

**КНІГІ**

**Куплю энцыклапедычныя выданні** Леаніда Маракова. Т.: (029) 753-82-12, (044) 722-07-71.

**Прадам Беларускую савецкую энцыклапедыю** 1975 года выпуску, у 12 тамах, акрамя 1 і 4 тамоў. Самавываз. Т. 776-35-57 (МТС). Аляксей

**ВЫШЫЎКА**

**Майстар народнай творчасці Галіна Рудніцкая** запрашае ў студыю беларускай народнай вышыўкі. Заняткі з кастрычніка па май, раз на тыдзень (ранішняя і вячэрня групы) па адрасе: Мінск, Гікалы, 4. Для іншагародніх магчымыя інтэнсіўныя заняткі 2 разы на месяц, па суботах, з лістапада па сакавік. Т.: (029) 171-13-90

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!




**Мадэльер Саша Варламаў пасля турэмнага зняволення зноў пачаў выходзіць у людзі. На тым тыдні яго бачылі на паказе мадэляў брэнда Sisters Parfenovich. Варламаў правёў два гады ў СІЗА за нявыплату падаткаў.**




**22-гадовы рэгбіст Ману Туілагі дагэтуль не можа пазбавіцца дзіцячых жартаў. Падчас фотаздымак зборнай з прэм’ер-міністрам Вялікабрытаніі спартсмен не ўтрымаўся і паставіў Кэмерану «рожкі». Потым, праўда, пачаў выбачацца, але прэм’ер не пакрыўдзіўся.**




**У канферэнц-зале брэсцкага лядовага палаца вісіць вось такі кілім.**



**Касцюшка, Міцкевіч, Багдановіч, Купала і нават Пазняк з’яўляюцца на хэндмэйд-упрыгожаннях, што выфабляе крама V_ART_a — hand made. На фота — завушніцы.**



## Анекдоты і жарты

* * *

У старшыні райвыканкама нечакана ўзнікла пытанне: дзе ўзяць асфальт, каб ездзіць на новым «Поршэ», які па дакументах і ёсць той самы асфальт?

* * *

У 1975 годзе ў мяне канфіскавалі самагонны апарат. Учора бачыў яго на выставе «Мадэрнізацыя і нанатэхналогіі».

* * *

Вучэнні «Распаўсюд чутак пра нешта страшнае ў метро-2013» прайшлі паспяхова.

* * *

Для таго, каб схуднець, неабавязкова трымацца дыеты. Трэба есці шмат гароднiны і садавіны. Любой — галоўнае, яе не мыць.

* * *

Верасень — такі месяц, калі не разбярэш, хто большая дурніца: тая, што яшчэ ў басаножках, ці тая, што ўжо ў ботах.

* * *

Мой любімы метад выканання любой працы:

1. Адкласці ўсё да трэцяй гадзіны ночы.
2. Сесці і заплакаць.

* * *

Чэмпіён свету па скачках у ваду закідвае пельмені ў рондаль без пырскаў.

* * *

Пасля тыднёвай галадоўкі леў нарэшце прызнаў, што вартаўнік заапарку «цар звяроў».

* * *

Калгаснік Пятро паставіў на агародзе такое страшнае пудзіла, што вароны вярнулі ўраджай за мінулы год.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Мінску ў казённай палаце прапалі асігноўкі на 70000 рублёў.** Калі агледзеліся, што іх няма, то зараз жа хапіліся за блізкіх да справы чыноўнікаў. І вось назаўтра аднаго з іх злавілі ў Оршы, а другога — у Мінску. Абодва прызналіся.

**«НН». №38. 1913.**

**Расейская радыёлакацыйная станцыя «Волга» пад Баранавічамі заступіла на баявое дзяжурства.** Яна здольная выяўляць у палёце балістычныя ракеты, а таксама касмічныя аб’екты на адлегласці ў тысячы кіламетраў.

**«НН». №36. 2003.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснікі галоўнага рэдактара | Ягор Марціновіч<br>Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8007. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 24.09.2013.
Замова №3870.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

